
Арлянскія сустрэчы→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Беласток-Гродна→8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 37 (3096) Год LX Беласток, 13 верасня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Выстава «Збор. Канструяванне архіва» ў беластоцкай Галерэі «Арсенал», несумненна, увойдзе ў гісторыю не толькі беларускага мастацтва, але і еўрапейскага. З'яўляецца яна дакументацыяй сарака самых важных мастацкіх выразаў беларускага сучаснага мастацтва 1991-2015 гадоў. Выстава стала магчымай дзякуючы матэрыялам, сабраным Даследчыцкай платформай беларускага сучаснага мастацтва «Калектар» (kalektar.org) для патрэб спецыяльна створанага праекта «Збор». Гэта першыя ў такім абсягу, надалей дапаўняныя, абнаўляныя і даступныя ў інтэрнэце рэсурсы інфармацыі пра найбольш важныя работы беларускіх мастакоў ад 80-х гадоў XX стагоддзя. Мае ён таксама функцыянаваць у якасці асновы для далейшага дэталёвага даследавання ў гэтай галіне. Выстава была задумана як своеасаблівы, агульнадаступны падручнік беларускага мастацтва апошніх дзесяцігоддзяў.**

# «Збор», або Піянерскі рывок мастакоў

З інфармацый даступных на экспазіцыі (адкрытай 28 жніўня ў сядзібе «Арсенала» па вул. Міцкевіча), можна даведацца м.інш. што «беларускае мастацтва ў апошнія дзесяцігоддзі перажыло некалькі пераўтварэнняў. У той час адбыліся важныя мерапрыемствы мастакоў і груп мастакоў, якія паўплывалі на развіццё культуры. Тым не менш, розныя колы прафесіяналаў, якія ўдзельнічаюць у мастацкай крытыцы, не стварылі сумеснай ацэнкі з'яў, тэндэнцый і працэсаў, што прывяло да знікнення і маргіналізацыі інфармацыі аб сучасным мастацтве апошніх дзесяцігоддзяў». І таксама: «У дзяржаўных калекцыях у Беларусі, з аднаго боку, практычна няма незалежнага, непадпарадкаванага афіцыйнай праграме ідэалагічнага мастацтва, з другога — цалкам ігнаруюцца думкі крытычныя ў адносінах да стану палітыкі і культуры. У Беларусі, у адрозненне ад іншых краін, няма школьных праграм, каталогаў і калекцый, у якіх зарэгістраваны ключавыя падзеі, імёны, творы і тэндэнцыі ў мастацтве Беларусі. Дзяржаўныя даследаванні твораў мастацтва ахопліваюць перыяд да сярэдзіны 90-х XX ст., што знайшло адлюстраванне ў школьных праграмах. Пазнейшыя мастацкія з'явы — ад сярэдзіны 90-х да сёння — не ўключаны ў праграмы дзяржаўных даследаванняў, што прымушае незалежных даследчыкаў заняцца мастацтвам дадзенага перыяду».




■ Злева: Моніка Шэўчык, Сяргей Шабохін, Жанна Гладко, Сяргей Кірушчанка, Андэй Дурэйка

## Гэта першы крок

«Калектар» быў заснаваны ў 2014 годзе па ініцыятыве беларускіх мастакоў, куратараў выставы ў Беластоку Сяргея Кірушчанкі (нарадзіўся ў 1951 г.) і Сяргея Шабохіна (1984 г. нар.), рэдактара партала аб мастацтве «ArtAktivist», а таксама даследчыка мастацтва Аляксея Барысёнка (1992 г. нар.) для «збору і архівавання матэрыялаў і захавання пераемнасці ведаў аб сучасным мастацтве Беларусі». Каардынатарам выставы з'яўляецца Павел Праабражэнскі, менеджар у культурнай сферы. У групе спецыялістаў праекта «Збор» былі мастакі, крытыкі і даследчыкі мастацтва: Тацццяна Арцімовіч, Аляксей Барысёнак, Андрэй Дурэйка, Валянціна Кісялёва, Аляксей Лунёў і Лена Прэнц.

Дырэктарка Галерэі «Арсенал» Моніка Шэўчык перакананa:

— Гэты праект зачароўвае тым, што мастакі і група экспертаў і тэарэтыкаў мастацтва сустракаюцца адзін з адным і спрабуюць запоўніць прабел, які знаходзіцца ў культурным жыцці Беларусі. Культурныя ўстановы на Усходзе — гэта феномен не толькі беларускі, калі займаюцца сучасным мастацтвам, робяць гэта паверхнасна, не аналітычна. У гэтым выпадку ўзнікла даследчая група, якая вырашыла замяніць далёка недасканалы Беларускі музей сучаснага мастацтва (заснаваны ў 1997 годзе — М. Х.). Яны вырашылі зрабіць свайго роду віртуальны музей. Я адчуваю, што і мы дакладваемся да чагосьці вельмі важнага. Я не знаходжу іншай крыніцы, якая забяспечыла б мне поўныя веды пра беларускае сучаснае мастацтва, каб я магла ўвайсці на адзін вэб-сайт і даведацца больш дастаткова. Нават наш польскі партал «Культура», які прыбліжае веды пра польскіх мастакоў, вядзецца не так метадычна як «Калектар».

Сяргей Кірушчанка раcказвае:

— Ідэя гэтага праекта спела вельмі доўга. Гэта мастакі ў нашай краіне павінны ўзяць на сябе адказнасць за распрацоўку такіх праектаў. Раней зборам архіва сучаснага мастацтва займаўся Андрэй Дурэйка (1971 г. нар. — М. Х.), які сабраў працы прыкладна дзевяноста мастакоў. Я падкрэсліваю, наш архіў, што прадстаўляе сорак з'яў у беларускім сучасным мастацтве, з'яўляецца толькі першым крокам да стварэння рэальнага музея сучаснага мастацтва. Я думаю, што нам гэта ўдасца на працягу трох-чатырох гадоў, каб паказаць поўную карціну гэтага мастацтва. Гэты архіў патрэбны, каб ісці наперад, таму што мы павінны ведаць, дзе знаходзімся ў дадзены момант. Вядома, хоць выбар быў вызначаны з дапамогай шасці членаў рады экспертаў, выбар і так суб'ектыўны.

Сяргей Шабохін:.

— Мы б хацелі гэты праект паказаць не толькі ў заходняй і ўсходняй Еўропе, але і ў Беларусі. Рада экспертаў на працягу трох месяцаў абрала творы так, каб праз іх можна было прадэманстраваць як найбольш розных стратэгій у нашым мастацтве. Прадстаўлены розныя пакаленні мастакоў, і што важнае, таксама тыя работы, у якіх гаворыцца пра важныя падзеі ў нашым грамадскім і палітычным жыцці, якія мелі месца з пачатку 80-х да сённяшняга дня. З вялікай колькасці тэкстаў на выставе можна даведацца не толькі пра гісторыю тых жа мастацкіх стратэгій, дэталёвых твораў і мастакоў, але таксама і пра больш шырокія падзеі ў Беларусі ў апошнія дзесяцігоддзі. Гэтая выстава можа быць створана толькі пры падтрымцы Галерэі «Арсенал», якая здаўна супрацуе з мастакамі з Беларусі, і адзін з твораў, які змяшчаецца ў яе калекцыях, групы «Рэвізія», таксама паказаны на нашай выставе. Беласток як такі невыпадкова выбраны на месца першага паказу.

Мастак і куратар, член групы «Рэвізія» Андрэй Дурэйка, ад пятнаццаці гадоў жыве ў Нямеччыне:

— Характэрным для гэтай выставы, ва ўсім праекце «Збор» і для функцыянавання мастацтва ў Беларусі, з'яўляецца тое, што мастакі бяруць на сябе тыя функцыі, якія ў іншых краінах адпавядаюць тэарэтыкам і мастацтвазнаўцам. Шэфам фестывалю перформенсу «Навінкі» з'яўляецца мастак Віктар Пятроў, часопіса прысвечанага сучаснаму мастацтву «pARTisan» таксама мастак Артур Клінаў, партала займаючагася ім «ArtAktivist» Сяргей Шабохін. Нашай спробай было паказанне на выставе «Збор» таксама тых мастакоў, якія не жывуць у Беларусі, але ўсё яшчэ ідэнтыфікуюцца з ёю. У маім архіве ёсць больш за сто работ мастакоў, якія не жывуць у краіне, але прадстаўляюць беларускае мастацтва. Паказваем таксама вельмі маладых мастакоў, якія толькі пачынаюць вызначаць перспектыву нашага мастацтва, і многія з іх з'язджаюць за мяжу для вывучэння сучаснага мастацтва.

## Ніхто ў свеце не ведае

Сяргей Шабохін адзначае:

— Да тых дзяржаўных устаноў, якія існуюць і з назвы маюць справу з беларускім сучасным мастацтвам мы адносімся досыць крытычна.

Андрэй Дурэйка:

— Асноўная праблема сучаснага мастацтва, мадэрнага, зводзіцца да палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Афіцыйнаму Саюзу мастакоў яно не падабаецца. Былы дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, мастак-акадэмік Васіль Шаранговіч ненавідзеў яго, і цяпер, калі ён сышоў у адстаўку, яго дачка стала яго дырэктарам. Лозунг гэтай выставы ўзяты з працы «Нічога няма» Аляксея Лунёва. Гэта таксама адлюстроўвае той факт, што ніхто за межамі нашай краіны не ведае, што такое беларускае мастацтва. У адной толькі Нямеччыне ёсць каля трыццаці нашых мастакоў. Улада Беларусі хоча кантраляваць фарміраванне сучаснага мастацтва. Такім чынам заснаваны быў у 2012 годзе Цэнтр сучаснага мастацтва, але праз месяц указам прэзідэнта Музей і Цэнтр аб'ядналі. Дырэктарка музея яна і дырэктарка Цэнтра.

Выстава «Збор» складваецца з рэпрадукцый і арыгінальных работ. Ёсць тут карціны, фатаграфіі, прасторавыя творы, устаноўкі і відэа. Важнымі элементамі з'яўляюцца супольны тэкст і шэраг дадатковых тэкстаў, падрабязна распавядаючыя пра мастакоў, работы і кірункі. Сярод груп і асобных мастакоў на выставе і ў архіве апынулася таксама дакументацыя аднаго з твораў Лявона Тарасэвіча. Гэта роспіс на калонах, выкананы ў якасці пастаяннага элемента ў 1995 г. з нагоды канцэптуальнага віцебскага арт-фестывалю «In-Formation» у новаадкрытым тады ў гэтым горадзе Музеі сучаснага мастацтва. Праз дванаццаць гадоў без ведама аўтара быў ён зафарбаваны падчас рамонтных прац. Падчас адкрыцця «Збору» мастак сказаў «Ніве»:

— Ніхто ў свеце не ведае нічога пра беларускае мастацтва. Нават няма адбору важных мастакоў ад менш важных, як гэта ўжо зрабілі ва Украіне. Цяжка нават гаварыць аб ім, таму што нас усё чакае такая панарама. Гэтая выстава — вельмі цікавы перагляд. Гэта самае сур'ёзнае ў Польшчы дагэтуль прадстаўленне беларускага сучаснага мастацтва. Вы не бачы-

працяг☞5





# Гарэлка
## як каталізатар крызісу

У Беларусі знялі забарону на начны продаж алкаголю. Гэта не жарт, як і тое, што такая забарона была. А вось тое, што з гарэлкай жарты кепскія, у Беларусі ведаюць усе. Гэтаму бацькі вучаць дзяцей з самага маленства. Замахне бацька за каўнер кілішак горкай ды давай настаўляць маленькага сынка. Маўляў, гарэлка гэта атрута. Ды вось адна ёсць з ёй базавая праблема: без яе нельга, жыццё, нібыта, такое. Таму, тлумачыць бацька свайму маленькаму нашчадку, трэба ведаць меру. І кажа гэта так пераканаўча, што пачынаеш верыць, што сам то ён меру ведае дакладна, нават калі ўжо і мычэць не можа.

Што-што, а з гарэлкай эксперыментаваць сапраўды нельга — нікому, ніколі і ні пры якіх умовах. Усе ведаюць, чым скончыўся сухі закон у Амерыцы. Добра, што своечасова схамянуліся. Ды і бальшавікі ў нас спрабавалі рабіць з гарэлкай свае эксперыменты.

Ну, з бальшавіцкімі прыдумкамі людзі даўно разабраліся. Усё, што рабілі бальшавікі, вызначалася толькі адной мэтай — захаванне ўлады шляхам абалваньвання суайчыннікаў. Звычайная задача для кожнай класічнай дыктатуры. Сучасныя дыктатуры — не выключэнне. Прыкладам, перамаглі камуністы непісьменнасць. Так ужо гэтым хваліліся, што многія паверылі, што яны пра людзей клапаціліся. Але ж тыя навучылі людзей чытаць толькі для таго, каб людцы савецкія газеты чыталі. Гэта значыць, каб спажывалі савецкую прапаганду. Бо пакуль савецкія грамадзяне вучыліся чытаць, бальшавікі знішчылі ўсё, што можна было чытаць, усю альтэрнатыўную прэсу, акрамя іхнай прапаганды.

І з гарэлкай эксперыменты таксама рабіліся з гэтай адной мэтай. Толькі там у супярэчнасць увайшлі дзве важныя праблемы. З аднаго боку трэба было загнаць усіх людзей на працу ў імя ідэй сацыялізму, каб гарбацілі як робаты дзеля выжывання камуністычнай дыктатуры. Ну, а што з п'яного за работнік? Таму гарэлку спрабавалі забараніць пад выглядам клопату пра здароўе працоўных. Але з другога боку іх бязглуздая сацыялістычная эканоміка аніяк казну не магла напоўніць. І ратаваў сітуацыю толькі продаж алкаголю, які ва ўмовах дыктатуры для бюджэту з'яўляецца істотнай падтрымкай, а вось для чалавека працы гэта амаль адзіны шлях да персанальнай свабоды.

Галоўнае, каб той свабоды не было зашмат. Вось і балансавала бальшавіцкая ўлада паміж гэтымі дзвюмя задачамі. Гарэлка была таннай і даступнай, але кантроль таксама не адставаў. Пі колькі хочаш, але зранку кожны мусіць быць цвярозы і на працы. Як хто выбіваўся з гэтага балансу, то для такіх быў вынайдзены цэлы шэраг метадаў уздзеяння. Ад выцвярэзнікаў, пазбаўлення прэміі, публічных грамадскіх судоў да прымусовага лячэння ў адмыслова зробленых установах.

Усталяваны баланс разбурыў Гарбачоў. Ён хіба што ад настаўлення свайго бацькі запомніў толькі першую частку, што гарэлка гэта зло. А вось тое, што без яе нельга, па нейкай прычыне не даслухаў. Узяў і забараніў. Ну то ўсё і пасыпалася. Людзі ўпершыню за семдзесят год глянулі на сваё жыццё цвярозымі вачамі і яно ім не спадабалася.

А зараз і да Беларусі дайшла чарга паэксперыментаваць з алкаголем па-дарослому. Не на жарт. Напачатку то ўсё было лагічна для такой эканамічнай і палітычнай мадэлі. Пры захаванні паўсацыялістычнай эканомікі захоўваўся такі ж падыход і да гарэлкі. Папаўняць бюджэт трэба. Таму піце на здароўе. Толькі зранку каб на працу і цвярозымі. Таму і савецкія схемы аднавіліся. Такія як забарона продажу горкай позна вечарам.

Ды вось зараз сістэма трэснула. Сам начальнік краіны, славуты сваёй прыхільнасцю да здаровага ладу жыцця, звярнуў увагу на яго вялікасць алкаголь. І паслухмяныя чыноўнікі адмянілі на яго ўсе забароны. І сталі ім гандляваць і ўдзень, і ўночы. Відаць, п'яны гультай у Беларусі значна больш карысны для бюджэту, чым абсалютна цвярозы работнік. Такая вось эканоміка.

Зразумела, што фельетон жартаўлівы. Але як кажуць у народзе — у кожным жарце ёсць крыху жарту. Ну, а калі сур'ёзна, то зараз, пасля таго як бюджэт пачалі ратаваць не проста „тунеядцы", але „тунеядцы" п'яныя, то пра эканамічны крызіс можна пачынаць пісаць ужо без аніякіх жартаў.

Віктар САЗОНАЎ

# Д'яблаў
# баданне



Расія Пуціна бадае Польшчу, як толькі можа. Часам забаліць. Найбольш, калі ўлады вялікага суседа абвяшчаюць забарону на імпарт польскіх прадуктаў. Пытанне толькі ў тым, каму гэта найбольш балюча. Нам, ці ім? Вядомы факт, што, калі з аднаго боку бадаюць, з другога нешта (неналежна) уцякае. Гэта праўда, што з выразам балючасці на тварах ходзяць ужо сяляне з Польшчы, вытворцы лекаў, касметыкі і мэблі. Нечакана, расійскае баданне таксама штурханула ў польскія шпроты. Расійская Федэральная служба па наглядзе ў сферы абароны правоў спажыўцоў і дабрабыту чалавека (Расспажыўнагляд), увяла іх эмбарга ды ў імгненным рэжыме. У афіцыйнай заяве федэральная следчыя пішуць, што пасля неадназоваага "даследавання прадукту «шпроты ў алеі» кампаніі Грааль С. А. з Вейгерова» прызнана нязгоднасць з «арганалептычнымі паказчыкамі» і «фактычным станам даных з этыкеткі аб пажыўнай каштоўнасці і энергіі»". Толькі што — як паінфармавала фірма Грааль — «апошні продаж (нашых шпротаў) у Расійскую Федэрацыю адбыўся больш за два гады таму». Гэта ў афіцыйным камюніке. Неафіцыйна, уладальнікі вейгероўскай фірмы турбуюцца здароўем санітарных інспектараў Расспажыўнагляду. Бо хаця баданулі тыя ў добрае імя іхняй фірмы, пэўна, чарапы ад гэтага ім не разбалеліся. Але гэта толькі адзін бок праўды. Таму што тэрмін прыгоднасці для спажывання на паказаныя шпроты — не больш за два гады. І гэта той іншы бок.

Садоўнік, заводчык свіней ці перапрацоўшчык рыб можа дазволіць сабе самае балючае месца пацерці, калі хтосьці яго бадне. Палітык, мабыць, таксама будзе ў стане зрабіць гэтак, толькі з вялікай асцярогай. У святле тэлевізійных юпітараў не выпадае яму адбадануць. Толькі шкада, што ні адзін з палітыкаў ані кіруючых партый ГП і ПСЛ, ані ніякай ад апазіцыі, не баданўў каго трэба і куды трэба ў абароне гонару польскіх шпротаў. Яны аддаюць перавагу бадаць адзін аднаго. Пачынаецца, як у гіце Каі, давай правы да левага... Але далікатнае спачатку стуканне чэрапам у чэрап, якое, каб не было заўважна, завецца палітычнымі дэбатамі, з часам ператвараецца ў агульнае баданне. Так вось палітык з партыі ПіС бадае ззаду палітыка з ГП. Той у сваю чаргу бадае таго і таго з ПіС, і на ўсякі выпадак і з СЛД. А той зноў жа таго з ПіС. Трэба таксама адзначыць, што ў кожнай з гэтых партый адбываецца ўнутранае баданне паміж рознымі іх гурткамі, фракцыямі і лагерамі. Для таго, каб не быць галаслоўным... Год таму ў ГП бадалі адзін аднаго Схетына з Тускам і іх прыхільнікі, паасобку і разам усе з усімі. Хто ў цяперашні час бадае старшыню ГП і ў той жа час прэм'ер-міністр Копач, змаўчу, таму што гэта жанчына, і ў гэтым кантэксце гэта можа гучаць неадназначна, але не ў гэтым справа. У СЛД нядаўна Мілер бадаў Напяральскага, а іх зласесны цень, Чажасты, сузаснавальнік так званай «фракцыі Ардынацкай», і аднаго, і другога. І хіба з кожнага, хто не з ім. А хто не з ім, ці хто з ім, Бог ведае! У любым выпадку, польскай лявіцы прыдаліся б сур'ёзныя экзарцысты. Але не толькі лявіцы. Д'яблаў у Польшчы, і асабліва ў палітычных колах, назбіралася ўжо даволі шмат. Невядома, наколькі палітычныя колы перакрываюцца з касцельнымі коламі, таму і не вядома, колькі д'ябальства пранікае з кола ў кола. Затое можна быць упэўненым, што Каталіцкі касцёл усё больш мацуе шэрагі. Акрамя таго, цікава, што чым больш д'ябальства шырыцца ў народзе, тым больш яно расце ў сілу. Прыкладам гэтага з'яўляецца яго прафесійная армія заклінальнікаў-экзарцыстаў. Саміх экзарцыстаў, напэўна, не больш, чым д'яблаў, але ёсць усё так шмат, што варта спытацца пра лік д'яблаў у цяперашні час у краіне. Магчыма, вырашыць гэта дэмаграфічныя праблемы палякаў. Але я нічога не сказаў пра баданне ўнутры ПіС. Вось у ПіС баданне амаль не адбываецца. І гэта пэўна ад часу, калі лідар ПіС Качынскі выкінуў з партыі некалькі аваладаных прагай улады малойчыкаў. Вось, хаця б такога Курскага або Гофмана. Асоба лідара партыі Права і справядлівасць — як непарушная вось кола. Усё круціцца вакол яго. І ўсе. Як вагонікі ці не чартоўскага кола... Ну, але я пачаў са шпротаў і на іх трэба было б кончыць. Як вядома, ім цесна ў банцы. А мне на маёй радзіме, у Польшчы.

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Зноў без камітэта

На вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты і сенатары выбарчыя камітэты маюць час да поўначы 15 верасня. Таксама і на сёлетніх, восеньскіх парламенцкіх выбарах (25 кастрычніка) беларусы на Падляшшы не пойдуць пад сцягам свайго камітэта. Атаясамляючыся з беларускасцю, канкуруюць за месцы ў парламенце са спіскаў камітэтаў, фармаваных палітычнымі партыямі, а на выбарах у Сенат Яўген Чыквін будзе старацца за галасы выбаршчыкаў пад сцягам свайго камітэта. Калі я нядаўна быў у парламенце, дэпутат Рышард Галя, які прадстаўляе ў ім нямецкую меншасць, расказваў: «Таксама і на гэтых выбарах наша меншасць будзе балатавацца ў рамках незалежнага выбарчага камітэта. Гэтак было ад першых парламенцкіх выбараў у Трэцяй Рэчы Паспалітай. Нямецкая меншасць з усяго Апольскага ваяводства зволнена ад пяціпрацэнтнага парога на краёвым узроўні. Колькасць мандатаў, якія з выбараў на выбары дасягаем, аднак, скарачаецца. У мінаючым скліканні парламента я быў адзін. На маючых адбыцца выбарах мы мяркуем, што здабудзем два дэпутацкія мандаты і адзін сенатарскі».

Заўважыў: «Варта было б у будучыні разгледзець пытанне аб стварэнні такога выбарчага заканадаўства, якое дало б таксама і іншым меншасцям рэальную магчымасць прэтэндаваць на месцы ў Сейме, але не са спіскаў іншых камітэтаў, напрыклад, палітычных партый».

Чаму беларусы зноў не ідуць пад сваім імем? Несумненна, адказаў вельмі шмат, але я папрасіў адказаць на гэтае пытанне двух вядучых актывістаў беларускіх арганізацый: Васіля Сегеня, віцэ-старшыню Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Яўгена Вапу, старшыню Беларускага саюза ў РП. Васіль Сегень:

— Напэўна, таму, што папярэднія спробы не далі чаканага выніку. Я думаю, што асяроддзе беларусаў у Польшчы, на жаль, занадта фрагментаванае (што не з'яўляецца сакрэтам), каб з аптымізмам глянуць на нашае магчымае прадстаўніцтва ў польскім парламенце. Ніхто не прадстаўляе, ці інакш, не ў стане звярнуцца да шырокага «беларускага» электарату. На мой погляд, гэта сельскі электарат, а там ёсць шмат патэнцыйных нашых выбаршчыкаў, на працягу многіх гадоў левы. Скарыстаў на гэтым Ян Сычэўскі, калі левыя былі сур'ёзнай сілай. Выкарыстоўваў гэта дасюль Яўген Чыквін. З іншага боку, спробы прыклеіцца да Грамадзянскай платформы, на мой погляд, нічога добрага нам не маглі прынесці, а нашы «саюзнікі» атрымлівалі падтрымку для сваіх спіскаў. У сваю чаргу, стварэнне камітэта/камітэтаў «славянскіх» было накіравана на прыцягненне галасоў праваслаўнага насельніцтва, якое вельмі часта не лічыць сябе беларусамі, украінцамі... Эфекты, наколькі я ведаю, былі мізэрныя. Каб дамагчыся поспеху, па меншай меры хаця б як немцы, неабходна аб'ядноўваць і вылучыць аднаго, максімум двух лідараў. Варта таксама звярнуцца да так званага люду. Калі мы адкрыта будзем адмаўляць папярэднюю сістэму у Польшчы ці моцна крытыкаваць Беларусь, Расію, дык думаю, што сельскага насельніцтва не заахвоцім да сябе. Гэта нязгоднае з афіцыйнай палітыкай, але ў адваротным выпадку беларускай картай будуць іграць Платформа, ПіС, ПСЛ, Левыя. А нашым так званым лідарам раю: менш асабістых амбіцый і інтарэсаў, а больш дзеяннаў для агульнага дабра.

Яўген Вапа:

— У сённяшнім палітычным свеце, у якім пануе жорсткая палітычная канкурэнцыя, самастойны ў арганізацыйным і фінансавым сэнсе камітэт вельмі цяжка арганізаваць. Даходзяць яшчэ да таго гульні паміж палітычнымі партыямі, якія хочуць любой цаной, у якасці выбарчай прынады, мець беларусаў на сваіх спісках, таму тым цяжэй было б самастойнаму беларускаму камітэту вытрымаць такую канкурэнцыю. У такую самастойнасць, на жаль, беручы пад увагу ўваход у Сейм, беларусы Беласточчыны перасталі верыць, аб чым таксама сведчаць папярэднія спробы самастойнага ўдзелу ў парламенцкіх выбарах, якія не былі паспяховымі. Калі ў цяперашні час беларускія арганізацыі спрабуюць усімі сродкамі, перш за ўсё, выжыць, цяжка сарганізаваць незалежны камітэт. Я прызнаюся, некаторыя такія планы былі. Калі, аднак, высветлілася, што ў канчатковым выніку войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк будзе балатавацца ў Сенат, Беларускі саюз у Польшчы вырашыў не рабіць яму канкурэнцыі, а затым калі раптам зняў сваю кандыдатуру, вяртанне да гэтых планаў па прычыне выбарчага графіка немагчыма было ўжо рэалізаваць.

Прыгадаем, што на Падляшшы выбірае 14 дэпутатаў і 3 сенатараў.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Беларускі народны фэст «Арлянскія сустрэчы»




■ Супольна выступілі «Арляне» і дзеткі са школьнага калектыву «1/3» з Орлі

Беларускі народны фэст «Арлянскія сустрэчы» — галоўнае беларускае мерапрыемства, арганізаванае войтам і Гмінным асяродкам культуры ў Орлі — адзінай гміне ў Польшчы, у якой дарожныя ўказальнікі перад усімі мясцовасцямі напісаны на польскай і беларускай мовах. 29 жніўня перад сінагогай у Орлі сабраліся людзі, каб паслухаць беларускую музыку, купіць рукадзелле ды пачаставацца мясцовымі стравамі.

Да Другой сусветнай вайны ў Орлі жылі яўрэі, якія маліліся ў вялікай мураванай сінагозе. Пасля вайны бажніца нішчэла. Калі сінагога была адрамантаваная, стала месцам арганізавання культурных мерапрыемстваў. Ладзіліся ў ёй часовыя выставы, арганізаваліся канцэрты. Падчас «Арлянскіх сустрэч» Цэнтр імя Людвіка Заменгофа з Беластока прэзентаваў у сінагозе выставу «Драўляныя бажніцы».

Беларускі фэст пачаўся ў дзве гадзіны пасля абеду. Першымі выступілі супольна беларускі калектыў «Арляне» з Орлі і дзеткі з мясцовай школы з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк прывітаў гасцей — паслоў Сейма РП Роберта Тышкевіча і Аляксандра Сасну, дырэктара Культурнага цэнтра Рэспублікі Беларусь у Варшаве Эдуарда Швайко, бельскага старасту Славаміра Снарскага і яго намесніка Пятра Божку, а таксама бургамістраў і войтаў суседніх гмін. У фэсце ўдзельнічалі бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч і войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк. За запрашэнне падзякаваў і перадаў прывітанні ад маршалка Падляшскага ваяводства Мечыслава Башко ваяводскі радны Валянцін Карыцкі, які дабавіў, што прыехаў бы на арлянскі фэст і без запрашэння. На мерапрыемства прыбылі старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, святары, гмінныя і павятовыя радныя, прадстаўнікі мундзірных службаў.

— Мы ганарымся нашай беларускай культурай і таму ладзім беларускае мерапрыемства, падчас якога прэзентуем нашыя песні і мясцовую традыцыю. Дбаем пра тое, што атрымалі з мінулага, памятаем пра нашую гісторыю і традыцыі. Мы супольна ствараем нашую станоўчую рэчаіснасць, а Арлянская гміна развіваецца. У нас былі збудаваны фабрыка «Ікея» і ветраныя электрастанцыі, — сказаў войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк.

Перад сабранымі адважна і цікава запрэзентаваліся дзеткі з калектыву «1/3» Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Орлі.

— Калектыў «1/3» дзейнічае ў арлянскай школе з 2002 года, але сённяшні састаў новы, — заявіла музычны кіраўнік калектыву Альжбета Цюлькевіч.

Другім на сцэне выступіў найстарэйшы беларускі калектыў на Беласточчыне «Арляне».

— Мы зараз хвалюемся перад выступам, бо будзем прэзентавацца перад сваёй публікай, якая можа нас пахваліць або адмоўна ацаніць і гэтая ацэнка пойдзе па Орлі, — заявілі жанчыны з «Арлян». — Мы запісваліся ў калектыў, калі былі маладымі дзяўчатамі. Пасля павыходзілі замуж, выхоўвалі дзетак і тады спынялі музычную актыўнасць. Адны вярталіся ў калектыў падчас прафесійнай актыўнасці, а другія, калі перайшлі ўжо на пенсію. Зараз у нас, пенсіянераў, многа вольнага часу. Можа ёсць яшчэ больш энергіі да спеву і выступаў, у параўнанні з нашай моладасцю, бо тады мы многа энергіі трацілі на працу і сям'ю. Зараз думаем ужо пра святкаванне нашага круглага юбілею. 70-годдзе дзейнасці калектыву «Арляне» будзем адзначаць у наступным годзе. Ужо 25 гадоў займаюцца з намі Мікола і Людміла Фадзіны з Гродна, якія патрапілі многаму нас навучыць.

За ходам беларускага мерапрыемства наглядала дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Анна Несцярук.

— Калі я прыйшла на працу ў Гмінны асяродак культуры ў Орлі, «Арлянскія сустрэчы» ладзіліся ў пачатку лета. Мы працягваем арганізаваць гэтае мерапрыемства і спачатку назвалі яго Фэстам беларускай культуры «Арлянскія сустрэчы», а пасля перайменавалі на Беларускі народны фэст «Арлянскія сустрэчы». Пра народны характар мерапрыемства сведчаць песні, рукадзелле і стравы з нашай і суседніх гмін (Нараўскай, Гайнаўскай, Дубіцкай, Боцькаўскай, Міхалоўскай і Белавежскай), адкуль прыбылі прадаўцы рукадзелля і сувеніраў, — сказала дырэктар ГАК Анна Несцярук.



Перад выхадам на сцэну жартавалі спевакі калектыву «Жаваранкі» з Махнатага.

— Нас у Орлю запрасілі ўпершыню. У мінулым Махнатае належала да Арлянскай гміны. Мы цяпер прыехалі ў наш былы гмінны цэнтр, — сказаў Аляксей Герасімюк з махнацкіх «Жаваранкаў». — Мы ўжо падрыхтаваліся да выезду на Ваяводскія дажынкі ў Саколцы, нашыя жанчыны сплялі прыгожы дажынкавы вянок. Ад нейкага часу ў нас спяваюць новыя маладыя асобы. Асабліва сумуем па Марыі Мароз з Новага Беразова, якая памерла. Яна спявала сола і была вялікай апорай для нашага калектыву.

Падчас фэсту неапрацаваны фальклор паказалі «Малінкі» з Маліннік, цікава запрэзентаваліся «Вэрвачкі», «Fermata» і «Тры пальцы» — усе з Орлі.

— Мы тут прэзентуем неапрацаваны фальклор, якія спявалі ў моладасці. Мы яшчэ пад уражаннем нашага выступу падчас рэканструкцыі бежанства ў Студзіводах. Мы аўтэнтычна адчулі тое, што было сто гадоў таму і самі плакалі так, як плакалі нашы продкі падчас выезду ў бежанства, — заявіла Вера Нічыпарук, кіраўнік «Малінак».

Падчас фэсту былі абвешчаны вынікі IX Гміннага конкурсу на самы лепшы панадворак у Арлянскай гміне. Пераможцам стаў Андрэй Жаброўскі з Рыгораўцаў, другое месца занялі Валянціна і Сяргей Лукашукі з Чахоў-Забалотных. Раней Сяргей Лукашук (былы дырэктар Бельскага дома культуры) гаварыў мне, што многа часу праводзіць на жончынай бацькаўшчыне, дзе займаецца, між іншым, сталярскімі працамі на свае патрэбы. Трэцяе месца заняла Хрысціна Ваўранюк з Вулькі-Выганоўскай. Пераможцы конкурсу ўпрыгожылі дамы і іншыя будынкі, пасадзілі дрэўцы і многа расліннасці.

Падчас выступаў калектываў на сцэне, пра якіх удала расказвала вядучая фэст Марыёля Герман, людзі падыходзілі да прадаўцоў рукадзелля, частаваліся мясцовым харчаваннем.

— Вы можаце пачаставацца вяндлінай, паштэтам, сальцісонам, агуркамі і іншымі мясцовымі стравамі, — сказалі кулінары з палаткі Арлянскай гміны. Тут затрымлівалася найбольш запрошаных гасцей.

Харчаванне прапанавалі таксама ў палатцы Нараўскай гміны, дзе прадавалася таксама рукадзелле і можна было пазнаёміцца з матэрыяламі наконт турыстычных атракцыёнаў Нараўскай гміны. З гэтай гміны прыехалі і ўдала выступілі перад арлянскай публікай два вядомыя на Падляшшы калектывы «Арт-Пронар» і «Нарва». Падчас белфэсту ўдала запрэзентаваліся таксама «Верасы» з Вілінава Мельніцкай гміны, «Ручаёк» з Белавежы, «Калінка» з Беластока. На вечар запланаваны былі выступ зоркі мерапрыемства — калектыву «Купалінка» з Мінска і танцы пад гукі гурта «Зорка» з Беластока.

Падчас фэсту была магчымасць аддаць кроў для патрабуючых, ці купіць вырабы людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

— Мы штогод запрашаем на фэст калектыў з Беларусі. У гэтым годзе гасцюем славуты калектыў «Купалінка» з Мінска. Мы супрацоўнічаем з калектывамі са Свіслачы, але сёння ў Свіслачы свае святкаванні, — патлумачыла дырэктар ГАК Анна Несцярук.

Вышываныя іконы і ручнікі прадавала Галіна Бірыцкая з Плянты, а Пётр Леанюк з Руткі прывёз плецяныя вырабы з саломы. Працаўнікі Гміннай бібліятэкі ў Орлі прадавалі кніжкі за сімвалічную залатоўку. Было выдзеленае месца для Музея малой айчыны ў Студзіводах.

— Мы запрасілі рукадзельніц з Арлянскай гміны. Зоя Майстровіч з Рудутаў прывезла саломапляценне, Хрысціня Грыгарук з Орлі прадае свае вырабы з папяровай ракіты, а Анна Несцяровіч з Орлі прапануе абрусы. У палатцы Арлянскай гміны можна пачаставацца галушкамі з макам, праснакамі, салам, шмальцам, каўбасой, — пералічыла дырэктар Анна Несцярук.

— Я прэзентую тканне на кроснах. Нашыя мамы ткалі многа. Мы ў мінулым таксама карысталіся кроснамі, калі ткалі палавікі, — успамінала Вера Прыступюк з Гайнаўкі. Побач яе свае вырабы прадавалі жанчыны з Гуртка вясковых гаспадынь у Дубінах Гайнаўскай гміны.

— На кожным фэсце мне ўдаецца прадаць карціну і я гэтаму рады. Я таксама рады, што ў сваім Старым Беразове прадаў ажно 9 карцін. Некаторыя мастакі не маглі прадаць ніводнай сваёй карціны ў сваёй мясцовасці, а толькі пасля смерці сталі вядомымі ва ўсім свеце, — сказаў Мікола Яноўскі са Старога Беразова, які са сваімі працамі размясціўся на агародным месцы побач самой публікі. З другога боку агароджы прэзентавалася фотавыстава «Ах, што гэта быў за шлюб» — вялікія здымкі старэйшых сужонстваў, якія трымалі ў руках свае шлюбныя фатаграфіі з моладасці. Здымкі выканала арлянская моладзь у рамках рэалізаванага ў Гмінным асяродку культуры ў Орлі праекта фонду «Opus Verde» пад наглядам Пятра Несцяровіча з Орлі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Адказ на крытыку

## Вырашылі праблему

У 34 нумары «Нівы» ад 23 жніўня друкаваўся мой допіс «Пакінулі ў дурнях». Справа тычылася жыхаркі вёскі Малінікі, 92-гадовай Надзеі Сахарчук, якая стала ахвярай несумленных тэлеаператараў «Нэтыя» і «Тэлестрада». У выніку неакуратна афармленых дамоў «Нэтыя» абцяжарыла Надзею Сахарчук, як абанента, штрафным рахункам на суму 184 зл. за датэрміновае парванне дамовы, а «Тэлестрада» дапамінаецца заплаціць двухмесячны абанамент за тэлефон, якім старэча не карысталася.

27 жніўня, як аўтар тэксту і карэспандэнт «Нівы», паслаў я ў «Нэтыю» тэкст публікацыі «Пакінулі ў дурнях» (у перакладзе на польскую мову), затым папрасіў аб каментарый наконт крытычных заўваг, прад'яўленых Надзеяй Сахарчук у адрас фірмы. Копію пісьма з дадаткам адпаведных дакументаў паслаў я да ведама Павятовому заступніку кансументскіх правоў у Бельск-Падляшскі і войту гміны ў Орлі.

28 жніўня патэлеванавала мне прэс-сакратар «Нэтыі» Лідзія Марцінкоўская, якая аднеслася да ніўскай публікацыі.

— Зараз не маем доступу да дакументаў з 2009 года, — паяснілa прэс-сакратар. — Пагаджаюся з тым, што дамова з абанентам павінна быць чытабельная і акуратна афармленая. Паколькі дамова на выкананне тэлекамунікацыйных паслуг была з намі парвана, дык немагчыма зараз яе вярнуць. Таму ў гэтай справе не можам дапамагчы. Аднак улічваючы пажылы ўзрост абанента і жыццёвыя абставіны, у якіх знаходзіцца Надзея Сахарчук, можам дараваць ёй штрафны рахунак на 184 зл. Рашэнне на паперы дашлем поштай, — заявіла ў заканчэнні прадстаўнік тэлеаператара «Нэтыя» Лідзія Марцінкоўская.

Цешыцца трэба, што «Нэтыя» так хутка і станоўча паставілася да крытычнай ніўскай публікацыі. Хай бы так далей было...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Беларускі фэст у Нараўцы

У нядзелю, 2 жніўня гэтага года ў амфітэатры над рэчкай у Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбыўся беларускі народны фэст. Адкрыў яго і прывітаў сабраных Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны. Канцэрт вяла Кацярына Бяляўская, інструктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы.

У Нараўку прыехалі мастацкія калектывы з Беласточчыны і з Рэспублікі Беларусь: „Рэха пушчы" (кіраўнік Аліна Негярэвіч) і „Retro Beats" (кіраўнік Анэта Снарская) з Гайнаўкі, „Рассыпаны Гарадок" (кіраўнік Віктар Маланчык) з Гарадка, „Куранты" (кіраўнік Аліна Негярэвіч) з Бельска-Падляшскага і „Купалінка" (кіраўнік Алена Цялькова) з Мінска (Беларусь).

Стаяў пагодлівы і цёплы вечар. Ля сцяжынак каля амфітэатра прадаўцы паставілі шмат гандлёвых будак. На народнае святкаванне прыйшлі не толькі нараўчане, але і прыехалі жыхары навакольных вёсак ды нават з Гайнаўкі. Са сцэны дзве з паловай гадзіны плылі прыгожыя беларускія і толькі беларускія песні. Прыемна і радасна было іх слухаць. Беларускія танцы паказала мінская „Купалінка". Канцэрт зняў на кінаплёнку старалялюкоўскі дакументаліст Юрый Равінскі. Ён ахвотна запрашае да сябе на дэманстрацыю кінафільмаў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Міжнародны пагранпераход „Полаўцы"



■ Міністр Анджэй Галіцкі

Полаўцы — невялічкае сяло ў Чаромхаўскай гміне. Размяшчаецца яно на мяжы з Беларуссю. Непадалёк ад вёсачкі, яшчэ пры савецкай уладзе, з 24 студзеня 1986 года функцыянаваў польска-савецкі пункт спрошчанага перасякання мяжы. Перасяканне мяжы дапускалася на аснове пропускаў, калі ўзнікалі неспадзяваныя здарэнні, такія як шлюб, пахаванне або хрысціны. Такімі пропускамі маглі пакарыстацца суродзічы жыхароў пагранічнай зоны па абодвух баках мяжы пасля прад'яўлення адпаведных дакументаў (тэлеграмаў). Пашпартна-мытны кантроль выконвалі пагранічнікі.

У гэтым жа месяцы 6 снежня 1993 года, на аснове дзяржаўнай дамовы паміж Польшчай і Рэспублікай Беларусь, быў адкрыты пагранічны дарожны пераход Полаўцы — Пяшчатка. Гэта быў адзіны двухбаковы пагранпераход на ўсходняй мяжы. Да 2007 года пашпартна-мытны кантроль праходзіў на беларускім баку. Пасля ўваходу Польшчы ў зону Шэнген, гэтую дзейнасць перанеслі на польскі бок.

Больш дзесяці гадоў чаромхаўскі самаўрад хадайнічаў за перамену статусу перахода на міжнародны. І зерне ўпала на падатлівы грунт. Да ідэі чарамшан станоўча паставіўся тадышні падляшскі ваявода Мацей Жыўна, які затым стаў ініцыятарам і куратарам шматмільённай інвестыцыі — мадэрнізацыі і разбудовы пагранічнага перахода Полаўцы — Пяшчатка. Інвестыцыя доўжылася больш пяці гадоў. І ўрэшце дачакаліся свята...

4 верасня стаяла пахмурнае халоднае надвор'е, затым выпаў дождж. Пачаткова дробны, пасля перайшоў у лівень. Нягледзячы на гэта, у кампаніі сужонства Закшэўскіх, падаемся па дарозе № 66 у напрамку дзяржаўнай мяжы. Сёння здача ў карыстанне пагранперахода Полаўцы — Пяшчатка. Пачатак мерапрыемства, назначана на 11 гадзін, „пакаўзнуўся" на паўгадзіны, паколькі спазніўся... міністр Анджэй Галіцкі.

Перад адміністрацыйным будынкам новазбудаванага комплексу пагранперахода згуртавалася шматлюдная публіка і госці: пасол Рэспублікі Беларусь Аляксандр Авяр'янаў, падляшскі ваявода Анджэй Мэер, кіраўнікі Міністэрства інфраструктуры і развіцця Польшчы, намеснік старшыні Брэсцкага выканаўчага камітэта Міхаіл Сяркоў, таксама кіраўнікі брэсцкай групы пагранічнікаў, прадстаўнікі ваяводскіх, павятовых і гмінных самаўрадаў, жыхары навакольных сёлаў. Непадалёк, у лівнях дажджу, „на смірна" чакалі сцяганосцы пагранічнай аховы і мытнай палаты. І раптам натоўп заварушыўся. У бок пагранічнага шлагбаўма на прывітанне міністра падаўся камандзір сцяганосцаў пагранічнай аховы.



■ Пасол Рэспублікі Беларусь Аляксандр Авяр'янаў



Цырыманіял прывітання са сцяганосцамі праходзіў у лівнях дажджу, таксама як і чарговы ход святочнага мерапрыемства. Перш-наперш слова далі міністру.

— Каб больш такіх інвестыцый, якія даюць гаспадарчы імпульс. Гэта адзін з суперсучасных пагранічных пераходаў у Польшчы. Гэта паўплывае на развіццё ўсяго рэгіёна і яго жыхароў, — сказаў міністр Анджэй Галіцкі.

Пагранічным службам здадзены былі ў карыстанне новазбудаваны адміністрацыйны будынак, будынак дэталёвага кантролю, павільёны пашпартна-мытных адправак, павільёны вартаўнікоў, паветкі, дарожная інфраструктура і сістэма маніторынгу. Пераход, як адзіны на вонкавай мяжы Еўрасаюза, карыстаецца рэнтгенаўскай установкай для прасвечвання пасажырскіх аўтамабіляў. Дзякуючы гэтаму абсталяванню палепшацца сацыяльныя ўмовы працы функцыянераў пагранічных службаў, таксама скароціцца час чакання падарожных.

— Заўжды лічылі мы, што нашая супольная мяжа будзе прасторай для супрацоўніцтва, абмену і развіцця, — гаварыў Роберт Тышкевіч, старшыня парламенцкай камісіі замежных спраў, заадно шэф беластоцкай ГП. — Сённяшняя здача ў карыстанне перахода прыблізіла нас да гэтага ўяўлення.

Падляшскі ваявода Анджэй Мэер падзякаваў усім тым, хто садзейнічаў у рэалізацыі інвестыцыі. Заявіў пры тым, што ў ходзе інвестыцыйных дзеянняў у перыядзе васьмі гадоў у Падляшскім ваяводстве было расходавана 250 мільёнаў зл., у тым ліку 100 млн. еўрасаюзных сродкаў на разбудову і мадэрнізацыю пагранічных пераходаў. Кошт разбудовы пагранперахода ў Полаўцах склаў суму 178 млн. зл., у тым ліку 92,7 млн. з дзяржаўнага бюджэту, 61 млн. са Швейцарска-Польскай праграмы супрацоўніцтва, 21 млн. з Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва 2007-2013 Польшча — Беларусь — Украіна, затым апошнія з Фонду вонкавых граніц.

Намеснік падляшскага маршалка Мацей Жыўна, які інспіраваў і займаўся інвестыцыяй, узнагародзіў намесніцу дырэктара аддзялення інфраструктуры Падляшскай ваяводскай управы Еву Стаховіч «Ганаровым значком Падляшскага ваяводства». Ганаровыя граматы былі ўручаны прадстаўнікам пагранічнай аховы і мытнай палаты. У заканчэнні афіцыйнай часткі адбылося асвячэнне адміністрацыйнага будынка, якое здзейснілі капеланы пагранічнай аховы і мытнай палаты. Затым прысутныя, на чале з міністрам адміністрацыі і лічбавізацыі Анджэем Галіцкім, падаліся наведаць новазбудаваны комплекс пагранперахода. Пасля арганізатары запрасілі ўдзельнікаў урачыстасці на супольны банкет пры шведскім стале.

Магчымая кругласутачная прапускная здольнасць Міжнароднага пагранічнага перахода Полаўцы — Пяшчатка гэта: 2000 легкавых аўтамабіляў, 50 аўтобусаў і 200 грузавых машын грузападымальнасцю да 7,5 тоны.

Здача ў карыстанне міжнароднага суперсучаснага пагранперахода Полаўцы — Пяшчатка гэта магчымасць цывілізацыйнага прагрэсу для Чаромхаўскай гміны, новыя месцы працы, адкрытае акно на свет.

Больш бы такіх інвестыцый для занепадачага чыгуначнага пасёлка.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**



# Нянавісці не !

Цэлы год чакалі, карміліся думкамі, асабліва на фейсбуку. Іх мара збылася дзякуючы Лене Рагоўскай, старшыні варшаўскага Аб'яднання практыкаў культуры, стваральніцы праекта „Памежныя". Сарганізаваць і правесці тыднёвую паездку гімназістам справа надта складаная і адказная. Дабівае бюракратыя, страх перад праверкамі санэпідэмстанцыяй і куратарыяй, а перш за ўсё пагроза нешчаслівых выпадкаў. Лена вельмі старалася выбраць месца далёка ад вады, каб не патапіліся. У прошлым годзе першы, толькі трохдзённы кангрэс „Памежных" прайшоў у прэтсыжнай і, мабыць, адзінай гасцініцы ў Міхалове. Блізка, бяспечна, утульна. Захацелася рызыкнуць, вывезці іх далей ад хаты, пазнаёміць з іншай часткай памежжа. Выбрала ўзгоркі пад Сейнамі на мяжы з Беларуссю (16 кіламетраў), Літвой (12 кіламетраў) і Расіяй (40 км). З лясной лагернай базы да Герэта — возера ў Гібах было ўсяго 200 метраў. Дзякаваць Богу, не патапіліся. Папраўдзе, купацца не было калі, не дазваляў напружаны план кангрэса. Моладзь з Крынак, Міхалова і прыўкраінскага Даўгабычава настолькі ўцягнулася ў філасофію практыкаў, што пра возера нават не ўзгадала. Ужо другі год запар інтэнсіўна разбуджала сваю паблажлівасць і акцэптацыю існуючых і неіснуючых меншасцей, асабліва нацыянальных, перш за ўсё ўласнага рэгіёна. Арганізатараў і ўдзельнікаў з'езда звязаў і абавязаў асноўны лозунг: Нянавісці не!

— Ёсць два сарты паблажлівасці — добрая і кепская, — тлумачыць нам, зусім сур'ёзна, ксёндз у дзвярах сейненскай кафедры. Халодны пот сплыў па плячах.

— Найважнейшае — не хто ты, але які ты чалавек, — кажа найстарэйшая з трох, вяртаючыхся з кафедры пад ручку, жанчын.

Супрацоўніцтва ўсіх кангрэсменаў праходзіла ва ўмовах ўзаемнага даверу. Перш за ўсё даверу моладзі ў яе дабрыню і бязмежна багаты патэнцыял. Ніякага прымусу, ні спартыўна-ваеннай дысцыпліны — адзіныя, чыстыя і зразумелыя прынцыпы. Беручы пад увагу поўнае фінансаванне паездкі арганізатаркай, магчымасці ўдзельніцтва адкрыліся для ўсіх ахвотных, незалежна ад іх сацыяльнага ці эканамічнага статусу.

— Я б хацеў нечаму новаму тут навучыцца, — прызнаецца ў час першай кангрэсавай сустрэчы лепшы вучань Лукаш Анікей з Крынак.

— А мне дайце больш вольнага часу, — просіць нехта з менш удалай сям'і.

Стрэл у дзясятку. Усе мэты дасягнуты, сто працэнтаў нормы. Працавалі ахвотна ў адвольна выбраных гуртах ад сняданку да абеду, ад абеду да вячэры, ад вячэры да начной цішыні. Падалі ад стомы, але хапала сіл і на начныя лясныя падыходы, ці начное калядаванне ў аўтарска запраектаваных і выкананых пераапранашках.

Шэсць дзён сур'ёзнай працы над інтэрактыўнай, сімвалічна-канкрэтнай выстаўкай, якая неўзабаве будзе вандраваць па цэлай Польшчы. Паўставала яна на базе соцень гадзін гуказапісаў гутарак удзельнікаў праекта з найстарэйшымі жыхарамі іх мясцовасцей. Веравызнанне, мова, вясковыя забавы, калыханкі, праца — гэта толькі некаторыя з выбраных моладдзю тэм.

— Мяшаліся, — сказаў нехта з Даўгабычава, — сыны пераймалі рэлігію ад бацькі, дочкі — ад маці. Святкавалі двойчы. А ці існуюць нейкія розніцы паміж яўрэямі і праваслаўнымі?

— У Крынках хрысціяне трымаліся разам, жыды аддзяляліся, татары таксама арганізавалі ўласныя забавы, — дабавіў крынскі гімназіст.

— У школу хадзілі ахвотна, там адпачывалі ад цяжкай працы на гаспадарцы, — сказаў хтосьці, а іншы пералічыў усе прафесіі, якія выконвалі крынскія яўрэі.

— Дачка спявала калыханкі сваёй маме, — узгадаў нехта. — Мама не была ў змозе, бесперапынна плакала над цяжкім лёсам.

Сабраныя матывы пераўтвараліся ў прастору выстаўкі, у якой апынуліся, між іншым:

— лавачка, на якой праходзілі суседскія сустрэчы. Зрабілі лавачку і кавалак сапраўднага драўлянага плота, памалявалі зялёнай фарбай, будзе стаяць пры ўваходзе на выстаўку. У фармаце mp3 запісаныя размовы ў вёсцы на сапраўднай лавачцы.

— дзіцячыя гульні — колішнія, якіх ужо няма.Тут інфаграфіка з поўным інструктажом узноўленай гульні. Фільм — двое крынскіх школьнікаў б'юць па мячы, пашытым з ануч. Гульня будзе прадэманстравана менавіта на гэтым мячы.

— шафа страхаў і казак. У падвешанай да столі калысцы — калыханка. Беларуская — „Ой ду-ду, ой ду-ду, сядзіць голуб на дубу" запісаная ад Марыі Кулакоўскай з дому Краскевіч з Крынак.

— Калі хочаце, можам перакласці на польскую мову, — прапаную.

Рашаюцца застацца пры арыгінальнай версіі. Не здаецца нават Рут — 19-гадовая, жыццярадасная валанцёрка з афрыканскага Конга. У яе выкананні сольныя партыі рэпу „... на дубу, на дубу, ...сініцу, сініцу, ...на Пятра, на Пятра". Дапамагла экспрэсавая лагапедычная падрыхтоўка. Атрымалася на 5 з плюсам. Фанаткі моцнага ўдару з Даўгабычава зрэпавалі асноўны тэкст калыханкі. Крынчанкі і міхалаўлянкі аказаліся спецыялісткамі па дзявочых, салодкіх хорках. Каб разагрэцца — танцы проста з падкрынскіх Ласінян. Акардэаністка, выпіўшы кубак ранішняй кавы, не можа запаволіць рытм. Танцуюць як шалёныя, асабліва „лысага".

Крынскія здымаюць фільм пра пасляваенную дзіру. Аўтарскія біяграфіі створаны фільмавымі героямі — жыхарамі даваенных Крынак. Апавядаюць пра свае сем'і, захапленні, падзеі. Некаторыя з маладых акцёраў гучаць настолькі верагодна, быццам гавораць пра саміх сябе, пра ўласнае жыццё. Гуртох жыдоў некалькі палякаў, адзін татарын. А што з беларусамі? Узнікае праблема прадстаўлення жыхароў Крынак беларускага паходжання. Адкуль яны ўзяліся, ці прыехалі сюды з Беларусі? Ці перад вайной існавала нейкая Беларусь? А калі скажаш праваслаўны, нехта падумае што гэта паляк? Як назваць чалавека, які гаворыць па-беларуску? Ці гаворыць ён па-беларуску ці па-просту? Крах.

— Калі не баішся, скажы беларус, але ці нехта з іх адважыцца, хаця б для фільма?

Пабачым неўзабаве.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# «Збор», або Піянерскі рывок мастакоў

1 ☞ працяг

це тут нейкіх мастацкіх комплексаў і прадстаўленыя тут мастакі могуць спакойна прадстаўляцца побач іншых еўрапейскіх мастакоў. Чакаю каталога, паказваючага ўсе гэтыя мастацкія тэндэнцыі, у тым ліку і перформенс, які можа паказаць свету, каб на пачатку зацікавіць беларускім мастацтвам. І Беласток у цэлым мог бы быць такім фарпостам беларускага мастацтва.

## Перформенс у электрастанцыі

Адкрыццё выставы было спалучана з перформенсам групы «Бергамот» (Вольга Маслоўская, Раман Трацюк), узніклай у 1998 годзе ў Брэсце. Дзень да адкрыцця іншыя мастакі з Беларусі (Наталля Лісоўская, Аляксандр Краўчанка, Сяргей Ждановіч) прадставілі свой перформенс у памяшканні электрастанцыі, якая належыць да Галерэі «Арсенал». Куратарам выставы быў Віктар Пятроў, які таксама паказаў свой перформенс, легенду такіх дзеянняў у беларускім мастацтве, саініцыятар арганізаванага з 1999 года Міжнароднага фестывалю перформенсу «Навінкі» (назва паходзіць ад назвы псіхіятрычнай установы пад Мінскам). Гэты фестываль з'яўляецца адзіным штогадовым фестывалем перформенсу ў краінах былога Савецкага Саюза. З-за палітычнай сітуацыі ў Беларусі сутыкаецца з арганізацыйнымі цяжкасцямі. Таму перформеры сёлета вырашылі паехаць з дэманстрацыямі ў розныя еўрапейскія краіны. Віктар Пятроў:

— Польшча з'яўляецца нашай суседкай, і мы знаходзімся ў абсягу ўплыву яе культуры, таксама як перформеры. Па-мойму, гэта класічны беларускі перформенс. Гэта азначае, што мы павінны разглядаць яго з пункту гледжання канцэптуальнага мастацтва. Яшчэ гадоў пятнаццаць таму ў Беларусі мастацтвам перформенсу займалася двое ці трое людзей. Зараз іх пад сорак з маладога і сярэдняга пакаленняў. Калі, аднак, не будзе палітычных змен у Беларусі, можа быць, што многія з гэтых людзей спыняць гэты від мастацкай дзейнасці. Наш перформенс пачаўся ў Польшчы, тут мы пачалі яго спазнаваць. Спачатку, у часы перабудовы, мы збіраліся невялікімі групамі ў прыватных дамах. Калі ў пачатку 90-х запрасіў нас Уладзіслаў Казьмерчак да сябе на свой Міжнародны фестываль перформенсу «Замак уяўлення», падумалі мы, што і ў Беларусі павінны зрабіць так, нават без грошай. Я паслаў запрашэнні мастакам з дзесяці краін з Еўропы, ЗША і Канады. Пазней высветлілася, што пераняў гэта КДБ і да атрымальнікаў яны не дайшлі. Такім чынам мы адправілі іх іншым шляхам і ў выніку на першыя «Навінкі» прыбыло з-за мяжы больш дзясятка мастакоў. Але затым на наступны дзень улады забаранілі праціягваць фестываль, але ў наступныя гады адбылося іх пятнаццаць запар. Паявіўся таксама часопіс «Навінкі». У цяперашні час штогод у фестывалю ёсць праблемы з уладамі з яго арганізацыяй пад любой падставай. У гэтым годзе я вырашыў не арганізаваць яго ў Беларусі і адпачыць. І гэта добра, што маем побач Польшчу.

«Збор» і паказ перформенсу былі сарганізаваны ў рамках фестывалю «Усход культуры. Іншае вымярэнне». Выстава будзе працаваць да 8 кастрычніка. Уваход вольны.



■ Злева: Лявон Тарасэвіч, Сяргей Кірушчанка



■ Пэрформенс «Game over» Сяргея Ждановіча

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Добрыя весткі з Беластока

*Наша школа — вясёлая*
*Яна ўсіх да сябе кліча*
*Вучыцца тут вялікі і малы*
*Мы яе любім**

Мы таксама рашылі сходзіць на адкрыццё школьнага навучальнага 2015/2016 года ў Непублічную школу свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. 1 верасня панавала спякотнае надвор'е, амаль 35,5 градуса цяпла. Тэмпературу падбівалі вялікі зрух і эмоцыі школьнікаў. Адкрыццё пачалося ўрачыстай літургіяй і малебнам у школьнай капліцы. Цягам апошніх двух гадоў школа разраслася ўдвая. Зараз працуюць два першыя і другія класы ПШ і тры класы гімназіі. Нас цешыць, што разам з колькасцю вучняў значна пабольшала навучэнцаў беларускай мовы, іх зараз 150 асоб (на 170 вучняў). Усе яны — добраахвотнікі, захопленыя беларускай культурай. Тут таксама шмат нашых чытачоў і аўтараў «Зоркі». Што і раз нехта з вучняў або бацькоў вітаўся па-беларуску.

— Як канікулы? — пытаю ў знаёмых гімназістак Веранікі, Зузі і Габрысі.

— Кароткія! — чую ў адказ.

На загарэлых тварах дзяўчатак святочана ўзрушанасць. Зараз яны гімназісткі-першакласніцы. У клас дойдуць новыя сябры. Разам з моладдзю іх выхавацелька, настаўніца беларускай мовы Іаанна Марко. Пытаем пра новыя ідэі ў 2015/2016 годзе. Іаанна Марко пералічвае шмат беларускіх мастацкіх і навуковых конкурсаў. Прыгожай і мудрай традыцыяй школы з'яўляецца беларуская дыктоўка, арганізаваная 21 лютага — у Дзень нацыянальных моў. У ёй удзельнічаюць амаль усе вучні. Што новага?

— Мы марым пра экскурсію «Шляхам беларускіх святых», — прызнаецца настаўніца. — Спачатку хочам паехаць на поўнач Беларусі, да Еўфрасінні Полацкай...



Фота Ганны Кандрацюк

Не меншы святочны зрух панаваў у беластоцкай «чацвёрцы», куды разам з першакласнікам Віктарам адправіўся наш рэдакцыйны сябра Адам Паўлоўскі. Як і год раней, тут будуць працаваць два беларускія першыя класы. Пачатак школьнага года вучні прывіталі мастацкай падзеяй. Мова пра кампакт-дыск з запісам „Аббы-аркестра", дзе навучэнцы беларускай мовы спяваюць найбольшыя шэдэўры з легендамі беларускай рок-музыкі. Пра беларускія праекты і працу з моладдзю чытайце на 7 старонцы ў інтэрв'ю з настаўніцай беларускай мовы Алінай Ваўранюк.

ЗОРКА

* *Беларускі верш пра Непублічную школу свсв. Кірылы і Мяфодзія напісала вучаніца Аляксандра Лашэўская.*



Фота Адама Паўлоўскага

Клас 1 ц з беластоцкай «чацьвёркі»

## СПРЭЧКА НА ГОНАР!

*(руская казка)*

Паспрачаліся з сабой пан і селянін: хто каго ашукае?! Пан кажа селяніну:

— Калі табе ўдасца мяне абмануць, дам табе сто рублёў. А калі я цябе абману, будзеш у мяне працаваць дарма год часу.

— Згодны!

Пан кажа:

— Я быў у Англіі, у Лондане!

— Магчыма, — адказаў селянін, — гэта, магчыма.

— Я быў у Францыі, у Парыжы!

— Я веру вам, — адказаў мужык, — магло такое здарыцца.

— Я там твайго бацьку дубінкай пабіў, — кажа пан.

— Гэта вы маглі, — кажа селянін, — я ў гэтым не сумняваюся.

Пасля пачаў гаварыць селянін:

— Я быў у Маскве і ў Варшаве.

— Так, так, — кажа пан.

— Там мой бацька вашага бацьку дубінкай пабіў...

— Не магло быць такога, — закрычаў пан і тупнуў нагой, — не, гэта немагчыма!

Тады селянін яму гаворыць:

— Калі гэта немагчыма, давайце мне сто рублёў!

***(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)***

**Валерыя ЛЮЛЯК**
**ПШ у Міхалове**

### Лета

Летам усё зялёнае,
У лясах больш аленяў.
Кветкі прыгожыя і пахучыя
Растуць на лугах.
Сонца грэе,
Матылёчкі лётаюць,
Дзеткі гуляюць
І ў моры плаваюць.
А бацькі загараюць,
У руках марожанае
трымаюць!
Усе ў добрым гумары!
Гэта лета!

### Радзіма

Зямля каштоўная,
Мая радзімая!
Беларусь мая айчына,
Мая прыгожая радзіма.
Табой ганаруся я,
Зямля мая, ласкавая!

### Беларусь

Беларуская
Адзіная
Ласкавая
Азбука
Радзіма
Усмешка
Сонца
Кветкі
Адшукаць цябе!

Інтэрв'ю з творчым сужонствам Алінай і Міколам Ваўранюкамі, шматгадовымі ўдзельнікамі і сябрамі Сустрэч «Зоркі». Яшчэ да размовы мы паглядзелі фільм Міколы Ваўранюка «Гаворацць беларусы Падляшша», у якім выступаюць героі культавага спектакля «Ой, даўно-даўно», які паставіла Аліна Ваўранюк, настаўніца беларускай мовы, аўтарка беларускіх падручнікаў, арганізатарка тэатральных заняткаў у ПШ № 4, намесніца старшыні Аб'яднання бацькоў у карысць беларускай мовы.

# МАЕ ВУЧНІ МОЦНА ПАСЯБРАВАЛІ!

**«Шпакоўня»:** — *Спектакль «Ой, даўно-даўно» ўзнік на аснове размоў са старэйшымі людзьмі. Падкажыце нам, як размаўляць са старэйшымі людзьмі?*

**Аліна Ваўранюк:** — Пакуль мы пачалі збіраць размовы, выязджалі са сваімі дзецьмі на майстар-класы ў Тэрэміскі. Заняткі вялі Ілона Карпюк і Коля Ваўранюк. Там гаварылі пра тое як размаўляць з людзьмі і як гэта запісаць. Сказалі што можна рабіць, а чаго нельга.

**Ш:** — *Чаго нельга?*

**Мікола Ваўранюк:** — Перш за ўсё нельга прыйсці да кагосьці і сказаць: «раскажы мне штось цікавае». Тады чалавек нічога нам не скажа. Трэба старэйшым людзям даць магчымасць выгаварыцца. Яны перажылі сваё доўгае жыццё і нібыта лепш за нас ведаюць што такое цікавая размова. Гутарка можа трываць і дзве гадзіны. Праз гэты час можам не пачуць нічога адметнага. Але ўжо ў трэцяй гадзіне чалавек можа зацікавіць нас нейкім дзіўным, незвычайным здарэннем. Трэба слухаць і не перарываць, гэта галоўны спосаб на цікавыя гісторыі.

**Ш:** — *Вы выступалі са спектаклем пяць гадоў. Ці за гэты час Вашыя дзеці змяніліся?*





Малюнак «Аліна ВАЎРАНЮК» Элізы Матус

**Аліна Ваўранюк:** — Так, змяніліся. Калі мы пачалі рыхтаваць спектакль, яны былі ў шостым класе, а зараз канчаюць ліцэй. Усе яны моцна пасябравалі. Усе хлопцы і дзяўчаты навучыліся з сабой гаварыць па-свойму. Цяпер яны ствараюць адну «банду» і дапамагаюць рабіць «Басовішча».

**Ш:** — *Вы шмат гадоў прыязджалі на Сустрэчы «Зоркі». Якія Сустрэчы Вам найбольш запамяталіся?*

**Аліна Ваўранюк:** — На Сустрэчах я займалася тэатрам. З моладзі запамятаўся мне Міхась Сцепанюк. Памятаю Аню з Нарвы, якая стаяла з запаленай свечкай у акне і спявала. Была таксама Уля Тарасэвіч, якая прыгожа спявала, хоць не зусім чыста... Памятаю Сустрэчы ў Старыне. Там ставілі спектакль «ОЙ», бо падумалі, што большасць беларускіх песень пачынаецца са слова «ой». Мы там зрабілі таксама спектакль «Куль». Пасля ў бельскай «тройцы» існавала кабарэ пад такой назвай. Яго рабілі вучні, якія былі на Сустрэчах: Жанэта Роля, Міхась Сцепанюк, Чарэк Хіліманюк...

**Ш:** — *Ці праца на Сустрэчах аказала ўплыў на цяперашнія Вашыя заняткі?*

**Аліна Ваўранюк:** — На Сустрэчах я зразумела колькі можна зрабіць з вучнямі, калі нас, настаўнікаў, не абмяжоўвае час урока. Этнаграфічныя летнікі «Я нарадзіўся тут», якія арганізавала АБ-БА для сваіх вучняў, зроблены на прыкладзе Сустрэч «Зоркі». Сустрэчы засеялі вельмі многа ідэй у нашым асяроддзі, былі прыкладам для іншых. Ты, Максім (увага скіраваная да рэдактара «Шпакоўні» Максіма Фіёніка), таксама дзіця Сустрэч «Зоркі». Гэта на Сустрэчах твой бацька напісаў музыку для спектакля на верш Яўгеніі Янішчыц *Ты пакліч мяне, пазаві. Мы заблудзімся ў хмельных травах...»*, які ставіла твая мама.

**Ш:** — Дзякуем за фільм і размову!

**Аліна і Мікола Ваўранюкі:** — Дзякуем!

## Польска-беларуская крыжаванка № 37-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеeным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 33:** Агат, ёд, пазёр, міс, ларнет, вясёлка, валасы, кус, код, на. Дзівак, сяло, сад, Ас, лёс, палын, парк, знак, артыст.

Узнагароды, наклейкі «з усмешкай», выйграла **Сара Скаўронская** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Miss | Stół<br>Saga | | | | |
| | Mit | Wieloryb | | Tron<br>Niebo | | | | |
| | Kino<br>Kot | | | | | Ar<br>Pi | | |
| Mgnienie<br>Kisiel | | | | | | | Hop | |
| | | | | | | | Nikt | |
| But | | Mleko | | | | | | |

Міхал ХАРЫЛА,
Патока, ПШ у Міхалове

### Клас

*Калі я ў класе сваім?*
*Штодзень!*
*Гуляю і вучуся, чым ганаруся,*
*З сябрамі гавару:*
*Што мы джэнтльмены,*
*Дзяўчаткам заплечнікі носім,*
*І падзякі не просім.*

## Вершы Віктара Шведа



### Едзе цягніком жанчына

Едзе цягніком жанчына,
Каб прадаць на рынку качку.
Сядзіць ля яе хлапчына
І жуе сваю ён жвачку.

— Дзякую табе, дзіцятка,
Што размовай забаўляеш.
Я, прызнацца, не ў парадку,
Як пянёк ужо глухая.

### Што людзі думаюць?

— Што думаюць, — пытае
Унук свайго дзядулю, —
Пра мужчыну, што не мае
Гузікаў пры кашулі?

— Людзі думаюць,
што, быццам,
Найдаражэйшы Здзісё,
Ён павінен ажаніцца,
Або ўжо разысціся!

*Віктар ШВЕД*

## Бежанства

***У сотую гадавіну злачынства***

*Першая сусветная вайна*
*У бежанства народ пагнала,*
*Каб выпаліць усё датла,*
*Каб след зарос быллём трывала.*

*Сялян страшылі казакі:*
*Вы выязджайце ўглыб Расіі,*
*Вас знішчаць немцы-чужакі,*
*Азвярэлыя, ліхія.*

*Паўтара мільёна землякоў*
*Сілай выгналі з радзімы.*
*Яны пыталі зноў і зноў:*
*Ці будзе паварот магчымы?*

*Незразумела гэта ім:*
*Чаму і тут вайна бушуе,*
*І бальшавіцкі ўжо рэжым*
*Падрыхтаваў разню такую?*

*Надышоў нарэшце слых*
*Аб вароце на радзіму.*
*Ужо там не чакалі іх,*
*Сталіся зусім чужымі.*

*А бежанства крывавы шлях,*
*Гінулі старэчы, дзеці.*
*Страты грамадныя ў людзях,*
*Не вярнуўся кожны трэці.*

## Васільковае поле

***Наталлі Герасімюк і Яраславу Іванюку***

*Мяне калісьці азадачыў*
*Мой лёс надзвычай*
*важнай роляй,*
*Каб у сваім жыцці убачыць*
*Мог васільковае я поле.*

*Былі вы, васількі, надзеяй*
*І запаветнай маёй марай.*
*Калі вас тут сам Бог пасеяў*
*На тым арэшкаўскім папары.*

*А як жа многа ў вас блакіту,*
*Які садзейнічае з небам*
*І цешыць вока каларытам*
*Людзей, якіх пацешыць трэба.*

*Стаю прад вамі на каленях*
*У надзвычайную маёўку*
*І прыгартаю я ў квітненні*
*Да сэрца вашыя галоўкі.*

***Беласток, 11 мая 2015 года***

*Барыс РУСКО*

## Эгаізмы

*Плывуць эгаізмы праз эпохі,*
*Не ведаюць бар'ер.*
*Па дарозе гасяць блікі розуму.*
*Будуюць крэпасці пагарды.*
*Сляпыя, а бездань побач.*

***Пераклаў з польскай мовы Віктар ШВЕД***



# XXI Фестываль «Беласток-Гродна»

■ Хор «Крыніца»

Дваццаць першы раз прайшоў фестываль польскай і беларускай песні «Беласток-Гродна». На гэты раз у Беластоку. Выступіла чатырнаццаць ансамбляў, у тым ліку пяць з Гродна. Канцэрт адкрыла шоў, без сумневу зоркі, у апошні час даволі часта гасцюючага на Падляшшы мінскага ансамбля «Купалінка». Былі шапікі з рамяством з абодвух бакоў мяжы і з музычнымі дыскамі. Свае кнігі падпісвалі беларускія пісьменнікі Беласточчыны, у тым ліку Віктар Швед, якога адзін з вядомых вершаў быў зачытаны на прывітанне сувядучай мерапрыемства Аннай Бабік з гурта «Світанак», які пачынаецца словамі «Прывабнасць кожнай кветкі-краскі/ І сэрца кожнага раскоша / Ёсць у звароце: / Калі ласка, / На польскай мове: / Bardzo proszę».

Упоўны кветак і ўвогуле багаты ў зелень парк Планты, як звычайна на мерапрыемствы на свежым паветры, арганізаваныя Беларускім грамадска-культурным таварыствам, таксама на сёлетні фестываль «Беласток-Гродна» (30 жніўня) прыйшлі натоўпы гледачоў. У гэты час можна было трохі адчуць блізкую выбарчую кампанію. Прысутнічалі кандыдат у дэпутаты ад падляшскай Аб'яднанай лявіцы, дэпутат Сейма цяперашага склікання Аляксандр Сасна і старшыня мясцовых структур увахадзячага ў яе склад Саюза дэмакратычных левых сіл Кшыштаф Біль-Ярузельскі, які таксама змагаецца за дэпутацкі мандат. Упершыню на публічным мерапрыемстве можна было сустрэць тут новую генеральную консул РБ у Беластоку Алу Фёдараву, якая некалькі дзён раней нанесла свой першы візіт у Маршалкоўскую ўправу Падляшскага ваяводства:

— Я яшчэ не буду адказваць на ніякія пытанні журналістаў, таму што надалей няма ў мяне афіцыйнай акрэдытацыі. Думаю, што на працягу месяца польскае Міністэрства замежных спраў дасць мне яе, — сказала яна коратка на спробу «Нівы» паставіць пытанні, між іншым, пра лёс пагаднення аб малым памежным руху паміж Польшчай і Беларуссю. Нагадаем, што беларускі бок да гэтага часу не адправіў адпаведнай дыпламатычнай ноты, каб магло яно ўступіць у сілу, хоць даўно пад пагадненнем стаяць подпісы прэзідэнтаў абедзвюх краін. Консул Фёдарава не ўспомніла, што беларускі бок стрымліваецца са згодай на прызначэнне новага пасла РП у Мінску і генеральнага консула ў Гродне.

Сярод гасцей паявіўся таксама віцэ-прэзідэнт Беластока Рафал Рудніцкі (у цяперашні час адказвае ён м.інш. за культуру ў горадзе; улады Беластока суфінансавалі Фестываль побач з Культурным цэнтрам Беларусі ў Варшаве). У гэтай і іншых ролях, напрыклад, як беластоцкі радны, раней не бачыўся ён на мерапрыемствах БГКТ. У прывітальнай прамове віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень звярнуўся да яго дыпламатычна:

— Запрашаем таксама Вас на іншыя мерапрыемствы, якія арганізуюцца БГКТ.

Сам намеснік прэзідэнта ў размове з «Нівай» упэўніваў:

— Раней я таксама бываў на мерапрыемствах БГКТ, але ніколі так як цяпер не сядзеў у першым шэрагу. Генеральна, я думаю, што трэба супрацоўнічаць з партнёрамі з Захаду і з Усходу. Гродна знаходзіцца недалёка Беластока і нармальным з'яўляецца тое, што мы стараемся супрацоўнічаць разам, прымаючы пад увагу, вядома, палітычную сітуацыю.

Віцэ-старшыня Сегень звяртаючыся да аўдыторыі сказаў:

— Мерай чалавека: беларуса, паляка, прадстаўніка той ці іншай нацыі з'яўляецца тое, як ён адносіцца да свайго роднага, што ён носіць у сваім сэрцы. І калі ў гэтым сэрцы вялікая любоў да бацькаўшчыны, да малой айчыны, да ўсяго роднага, такога чалавека можна сапраўды назваць вялікім.

Пасля, у гутарцы з журналістамі, ён адзначыў:

— Гэты Фестываль з'яўляецца часткай больш шырокай дзейнасці нашай арганізацыі. Гэтая праява дзейнасці нашых калектываў доказ таго, што трымаецца беларуская меншасць у Польшчы і польская ў Беларусі. Я думаю, што гэта для нашай публікі з'яўляецца вельмі важным. Унікальнасць гэтага фестывалю, які праводзіцца па чарзе ў Гродне і Беластоку, у Беластоку, у першую чаргу палягае на тым, каб паказаць нашай публіцы польскую культуру ў Беларусі, польскія песні і танцы, а не ўсе нашы гледачы, якія наведваюць нашы мерапрыемствы, маюць такую магчымасць.

— Ніколі я свайго меркавання не змяняла і па-ранейшаму ўпэўнена, што такі фестываль вельмі патрэбны, і прытым з кожным годам усё больш і больш. Нам усё цяжэй арганізаваць такія мерапрыемствы, а калектывам усё цяжэй прыязджаць. Адносіны паміж нашымі краінамі з'яўляюцца напружанымі, і гэта не з-за творчых людзей, — сцвярджала «за кулісамі» канцэрта Ірына Дземянчук, дырэктар Гродзенскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці ў Гродне. — Трэба, аднак, усё рабіць, ад каго гэта залежыць, каб фестываль працягваўся. Я кажу гэта з некаторым шкадаваннем, таму што засталося мала людзей, якія былі ім «апантаныя», а ён вельмі патрэбны, перш за ўсё, выканаўцам і людзям, якія прыходзяць сюды на Планты і ў нас у Гродне як публіка. Песні, танцы, сяброўства немагчыма раздзяляць мяжой.

Сярод беларускіх ансамбляў выступілі беластоцкія калектывы, «Оморфос» з Сямятыч, «Маланка» з Бельска-Падляшскага, «Росы» з Рыбалаў, «Прымакі» з Гарадка ці парываючая да забавы сямятыцкая «Падляшская капэла». Яўген Матвяюк з хору «Крыніца»:

— Такі фестываль, вядома, патрэбны. Вельмі цікавым з'яўляецца той абмен нашымі беларускімі песнямі і польскімі з калектывамі з Беларусі. Хтосьці сказаў, што песня аб'ядноўвае народы, і гэта так. Песня вядзе да добрых спраў, не да дрэнных. Калі б я не спяваў, не наведаў бы шмат месцаў, дзе мог пазнаёміцца з іншай культурай і паказаць сваю.

«Купалінка» на Плянтах выступіла пасля паказаў, якія адбыліся дзень раней на фэсце ў Орлі, і перад вячэрнім канцэртам у Элку. Спецыяльна побач трох беларускіх песень выканалі польскую «Марыся, бузі дай». Польскімі танцамі можна было захапіцца, у сваю чаргу, у выкананні «Крэсовых забаў» з Ліды. Быў і паланэз, і кракавяк, і горская танцавальная сюіта, і танец «Подлясе». Калектыў «Стакроткі» з мясцовасці Макараўцы Берастаўіцкага раёна прыняў удзел у фестывалі не першы раз. На гэты раз прадставіў дзве песні. Яго сяброўка Вікторыя Башко:

— Наш калектыў спявае не толькі польскія песні, але таксама ўкраінскія, рускія і беларускія. У нас жывуць амаль самі палякі, так што мы маем у рэпертуары трохі больш польскіх песень. Трохі цяжка, таму што ўсе людзі тут ведаюць польскую мову, але не размаўляюць выдатна. Песні бярэм, адкуль гэта магчыма, таксама ад старэйшых жыхароў. Гэты фестываль цікавы тым, што можна падзяліцца сваім вопытам.

Ва ўражваючых касцюмах польскай крэсовай шляхты — як сказала адна з яго сябровак — выступіў хор «Крэда» са Слоніма, які складаецца з выканаўцаў старэйшага ўзросту. Ён апроч, між іншым, «Паланэза Касцюшкі» заспяваў, на радасць гледачам, «Niech żyje wolność, wolność i swoboda... ». Найстарэйшая з удзельнікаў, легенда беларускай Палёніі Леанарда Рэўкоўская на чыста беларускай мове сказала нам:

— Шляхта на нашых Крэсах, пачаўшы ад Радзівілаў, так багата выглядала. Яна была нават багацейшая, чым польскі кароль. Яны маглі нават зрабіць скульптуры дванаццаці апосталаў з чыстага золата памерам з рэальнага чалавека. На жаль, дзесьці яны былі скрадзены. Ніхто не ведае, дзе і хто. Слонім гэта горад Агінскага. Была адноўлена ў нас польская традыцыя: кожны год у другой палове траўня адбываецца фестываль паланэза. У гэтым годзе ад 23 мая з пажарнай вежы штодзень гучыць паланэз Агінскага, як у польскія часы. А наш калектыў існуе на працягу больш за дваццаць гадоў. Мы бывалі ў многіх польскіх гарадах ад Катавіц да Шчэціна, ад Жэшава да Лодзі. Прымаем удзел у буйных мерапрыемствах ва ўсёй Беларусі. Выконваем таксама беларускія песні, але мала, як гэта «Ой, бульбачка, мая бульбачка...».

На канец сёлетняга фестывальнага канцэрта ўжо традыцыйна ўсе выканалі па-беларуску «Люблю наш край», і папольску «Piękna nasza Polska cała».

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# Чыгуначны рэквіем



■ Чаромхаўская вадакачка




■ Сычоўскі прыпынак на Спаса

Задумалася мне сёлета пабачыць як выглядае прыходскае святкаванне Спаса ў Сасінах. Бо пра Грабарку шмат вядома, у апошнім часе крыху вядомасці набыло і святкаванне ў Саках. А пра Сасіны ціха-ціхенька. Бо ж гэтая мясцовасць быццам схавалася ад вонкавага свету і нялёгка да яе дабрацца, асабліва ў перыяд канікул. І як я не круціў галавою, не ўдалося мне ўкеміць такога транспарту, на якім можна было б у прыстойную пару дабрацца з Беластока ў закінутую на памежжа Боцькаўскай, Мілейчыцкай і Кляшчэлеўскай гмін мясцовасць. І так, замiж у Сасіны, даволі няпышна павалокся я на Грабарку. Чыгункай.

З'явіўся я там каля гадзіны да пачатку галоўнага набажэнства і той час скарыстаў на разгляданне напоўненых народам вулачак і завулачкаў. І калі так кіраваўся да галоўнай манастырскай брамы, парадкавыя валанцёры ўзнялі гаману, каб сысці на абочыну дарогі. Неўзабаве паказаўся невялікі картэж з невялікім бела-чырвоным сцяжком на адной з машын. Самога Прэзідэнта Анджэя Дуды за зацемненымі вокнамі машыны не ўдалося пабачыць, але гэта не праблема, бо ж яшчэ шмат разоў пакажацца ён на электронных экранах...

Дарэчы, сёлета не ўдалося мне пабачыць не толькі Прэзідэнта, але нават хаця б нейкага звычайнага знаёмага. Здалося мне, што зараз народу там быццам менш, чым у ранейшыя гады. А ўжо напэўна менш таго святкуючага на Грабарцы народу карыстаецца публічнай камунікацыяй. Яшчэ ў канцы 1950-х гадоў, калі побач Грабаркі курсіравала шмат паяздоў, адзін мой сваяк, каб забрацца на цягнік у напрамку Гайнаўкі, спярша ехаў у Сямятычы і адтуль пачынаў вяртанне, бо на прыпынку ў Сычах не ўсе ахвотныя маглі забрацца ў поезд. Такі быў тады час, а цяпер настаў іншы. Цягніка ў напрамку Чаромхі чакала раптам каля дваццаці чалавек. Гэта ў людное свята, бо ў будні час той лік пэўна блізкі нулю...

У Чаромсе заставалася мне каля гадзіны чакання да адпраўлення чарговага поезда, у Беласток. Той час вырашыў я прысвяціць той чыгуначнай будоўлі, якая зараз вельмі нагадвае беластоцкую Оперу. Мова тут пра чыгуначную вадакачку. Звычайна пасажыры не звяртаюць на такую „дробязь" увагі, але гэтага роду аб'екты часта з'яўляюцца найбольш значнымі ў архітэктурным краявідзе шматлікіх мясцовасцей. І быў час, калі яны адыгрывалі значна важнейшую ролю, чым самі вакзалы. Вакзальнага будынка магло і зусім не быць, так як гэта на працягу шматлікіх гадоў было і ў Чаромсе, і ў Бельску, і ў Гайнаўцы, але вадакачка была тады неабходнай на вузлавых станцыях. Бо ж тады па нашых чыгуначных рэйках ездзілі паравозы, якія не запраўляліся бензінам ці саляркай, толькі менавіта вадою, кіпучая пара ад якой была тых паравозаў цяглавой сілай. Вадакачкі будавалі побач чыгуначных станцый у адлегласці каля трыццаці-сарака кіламетраў адна ад адной. Варта сабе ўявіць, колькі ў эпоху паравозаў трэба было пабудаваць такіх вадакачак, напрыклад, на транссібірскай чыгуначнай магістралі. А колькі ў цэлым свеце — не асмельваюся здагадвацца. Яны ці не ва ўсіх вузлах сусветнага чыгуначнага павуціння... І кожная з іх іншая, задуманая ў іншай галаве; колькі ж галоў працавала, каб той даўні чыгуначны транспарт запраўляўся звычайнай, здавалася б, вадою.

Чыгунка ў Чаромху завітала ў 1867 годзе, калі цераз мясцовасць пралягла лінія Граева — Берасце. Сорак гадоў пазней, у 1907 годзе цераз Чаромху адкрываецца чарговая лінія — з Седльцаў у Ліду і Полацк; Чаромха становіцца важным чыгуначным вузлом. Гэтыя даты здаюцца быць рарытэтамі ў чарамшанскай гісторыі, бо іншыя падзеі адлюстраваны даволі агульна. Касцельны партал згадвае пра эпоху караля Жыгімонта Старога, але згадка тая адносіцца бадай да недалёкай вёскі Чаромха, якая ў тую эпоху мела называцца Ажаровам. У чаромхаўскім гмінным партале і зусім няма зноскі на гісторыю мясцовасці, як гэта прынцыпова бывае ў парталах іншых гмінных цэнтраў. А вельмі шкада, бо гісторыі чыгуначных вузлоў набіралі асаблівага зместу ў час войнаў. І асабліва важнымі ў той час сталіся менавіта вадакачкі, без якіх ход паравозаў амаль гібернаваўся.

Удалося мне назбіраць крыху крышынкавых інфармацый пра ваенныя лёсы Чаромхі. Вакзальны будынак і вадакачка былі ўзведзены ў Чаромсе ў пачатку XX стагоддзя, калі тут скрыжаваліся згаданыя раней лініі. Адносна Першай сусветнай вайны — няма згадак пра знішчэнне чыгуначных аб'ектаў. Затое ў Другую сусветную вайну Чаромха апынулася на першай лініі фронту. Дзмітры Шатыловіч: „Найбольш жахлівым было 8 верасня, калі на станцыю Чаромху каля гадзіны 15.30 прыляцела 36 нямецкіх самалётаў... (...) Тады адна з бомб папала ў вельмі прыгожы чаромхаўскі вакзал і разбурыла адну яго частку, у якой быў рэстаран. Бомба папала і ў другую частку вакзала, але не разарвалася; пасля яе абясшкодзілі сапёры-чырвонаармейцы. Другая палова вакзала ацалела і служыла да ліпеня 1944 года, калі адступаючыя немцы яго ўзарвалі. Пашкоджаны былі вадакачка, многія дамы, вагоны, рэйкі. Пад бомбамі загінула многа салдат і мірных жыхароў, асабліва бежанцаў, уцякаючых ад вайны, якія жылі ў вагонах. Пасля гэтага налёту чыгуначны вузел перастаў дзейнічаць...".

Гэта было ў верасні 1939 года. У чэрвені 1941 года Чаромха, здаецца, пацярпела значна менш. Дзмітры Шатыловіч: „Сяляне з Чаромхі і навакольных вёсак кінуліся грабіць усё, што знаходзілася ў вагонах на станцыі Чаромха. Немцаў яшчэ не было і ніхто не перашкаджаў у рабунку. А на пуцях стаялі эшалоны поўныя тавараў, якія мелі ехаць у Германію. Сяляне вазамі везлі скрынкі маскоўскай гарэлкі. Навезлі яе столькі, што хапіла яе на некалькі гадоў нямецкай акупацыі. Апрача таго ў вагонах было поўна салдацкай бялізны, якую савецкія фабрыкі прыгатовілі нямецкім салдатам. Стаяла некалькі вагонаў белай ангорскай поўсці, якую пасля дзяўчыны пралі і з нітак вязалі світэры і іншыя рэчы. Стаяла многа вагонаў запоўненых белай чыстай баваўнай, якую дзяўчаты таксама пралі, ткалі і шылі вопратку...". І ў студзені 1946 года, пасля вяртання з вайны: „Я заўважыў, што няма вакзала, а толькі пустое месца, а побач пры дарозе стаіць барак з надпісам «Czeremcha»...".

Барак той стаяў вельмі доўга, бо новы вакзальны будынак быў здадзены ў карыстанне на восені 1989 года. Акурат з таго часу стала згортвацца савецкая прысутнасць у краінах Варшаўскага дагавора. І стала таксама згортвацца станцыя ў Чаромсе, якая была важным вузлом для транзіту савецкай ваеннай тэхнікі ў Германію. Што вазілі цягнікі на закрытых брызентам платформах — пэўна астанецца ваеннай тайнай, хаця некаторыя сакрэты няспешна ўсплываюць наверх, напрыклад, цераз Беласток і Чаромху адбываўся транспарт радыеактыўных матэрыялаў для атамных электрастанцый у ГДР; хто ведае, ці не ездзіла і іншая атамная тэхніка... І няма ўпэўненасці, што і цяпер па нашым адрэзку колішняй лініі з Полацка ў Седльцы не ездзяць склады з апаснымі рэчамі... Дарэчы, з адбудаваннем чыгуначных вакзалаў у нашай частцы Беласточчыны стала згортвацца і прысутнасць у іх нашых пасажыраў — цягнікі ўспелі на той час вывезці маладое вясковае пакаленне ў гарады...

А цяпер зноў вярнуся да чаромхаўскай вадакачкі. Гэта не тая, што з'явілася над Чаромхай у 1907 годзе, бо ж яна канула ў Лету ў час апошняй вайны. Цяперашняя вадакачка пасляваеннага радаводу. І хаця яна адносна новая, то яе час таксама набліжаецца да Леты. Паравозы саступілі месца наперадзе вагонаў дызельным лакаматывам. Нават быў час, калі ў напрамку Чаромхі рванулася была нават электрыфікацыя, але недалёка яна даскочыла і ўжо згарнулася. Вось і вадакачка ў Чаромсе даўно перастала качаць ваду для запраўкі паравозаў і зараз пасіўна спаглядае на навакольны свет быццам легендарны стараславянскі Святавіт. Спаглядае яна як і пастарэлая пенсіянерка, бо ж і чалавек, які, у прынцыпе, амаль з самой вады, падобны на тую вадакачку. І як пенсіянерка ў парку сузірае яна павольнае адміранне таго транспарту, які яна, як руплівая маці малаком, паіла вадзічкаю...

Калі наблізіўся я да чаромхаўскай вадакачкі і шчоўкнуў здымак, праязджаючы побач веласіпедыст паінфармаваў мяне, што з вадакачкі абвальваюцца на аўтамабілі цэглы і ніхто не хоча плаціць кампенсацыі... Чаромхаўская вадакачка састарэлася не толькі маральна, як гавораць дызайнеры новай тэхнікі, але і матэрыяльна, калі з яе ўжо сыплецца друз. Побач не вагоннае дэпо, куды здаўна ўжо не заязджаюць вагоны, а рэйкі зараслі травою. А быў час, калі там была майстэрня для двухэтажных вагонаў; быў такі час... З другога боку пуцей красуецца і лакаматыўнае дэпо, перад якім стаяць цяпер у шарэнзе выслужаныя „стонкі"; раней стаяла шмат дэмбельных „гагарынаў". Каб у тым дэпо споўніўся наканаваны Пісаннем лакаматыўны лёс: з металу паўсталі і ў металалом абернецеся...

Авакол вадакачкі-красуні многія гады круціўся непаседны вецер, усё танцаваў з ёю, усё ахутваў яе далікатнай абдымкай. І ў актах тае парывістае любві, як ухажор кветак, пананосіў сваёй партнёрцы і ўсялякіх семечак, і грунту пад іх. І падняліся тыя семечкі ў высакароднае патомства антрапагеннай, белай як нявінная дзева кругленькай прыгажуні і прыроднага, крылатага як арханёл ветру...

Паілі вадакачкі вадзічкаю паравозы, якія разносілі па свеце непаўторнае рытмічнае порханне сваіх рухавікоў — такі зачатак музыкі тэхна. У паравозным выкананні была гэта прыемная для вуха нясмелая і далікатная — па сучасных мерках — мелодыя; не тое, што сённяшняе фур'ёзнае тэхна. І тыя порханні соцень і тысяч паравых рухавікоў ды гудкі паравых свісцёлак неслі ў свет своеасаблівую сімфонію з кіпучай вады. Як духавы аркестр у оперы. Бо ж менавіта таму я супаставіў чаромхаўскую вадакачку з беластоцкай Операй... І з прычыны вельмі падобнай раслінасці, якая красуецца наверсе абодвух будынкаў...

Гадамі цягалі паравозы ўсялякі груз, як працавітыя мурашкі. І сённяшнія лакаматывы, якія тэхналагічным гвалтам захапілі ад іх рэйкі, таксама цягнуць груз, толькі непамерна лягчэйшы. Магчыма, што ўжо і нічога не вазілі б, калі б чыгунка апынулася ў прыватных руках. Але яна яшчэ астаецца пад уладай чыноўнікаў, на якіх народ паўсюдна наракае. А чыноўнік жа ад транспарту хоча пад сабою нешта мець — калі не рэгіянальныя аэрадромы, то хаця б кволенькі чыгуначны рэгіянальны мурашнік...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



# Туга па Маскве

У бежанства выязджалі двойчы: у 1915 годзе і пасля заканчэння Другой сусветнай вайны, — тлумачыць народжаны ў 1931 годзе ў Белагорцах **Віталь Гарбуз**.

Ягоны дзед, Уладзімір Гарбуз, 1871 года нараджэння, жыў у Маскве аж да рэвалюцыі. Родную хату ў падберастаўіцкіх Паўлюшках пакінуў халасцяком, шмат гадоў раней, чым бежанцы. Ехаць туды ніхто яго не прымушаў. Проста вырваўся з вёскі ў сталіцу ў пошуках шчасця. Адправіўся як стаяў, голы і босы, з мяшочкам матулiных сухароў. Так, так, Масква была тады сапраўды яго сталіцай, а Варшава толькі правінцыяльным горадам вялікай расійскай імперыі. Папаў да надта багатага жыда Цыгеля. Пасяліўся ў яго маскоўскім квартале разам з больш чым тысячу іншымі працаўнікамі фабрык і офісаў. Атрымаў талончыкі на касцюм, хлеб і нешта да хлеба. Тады ж пенсій не было, але Цыгель карміў і адзяваў сваіх падапечных да самой смерці. Уладзімір працаваў бухгалтарам. Спярша пяць разоў падумаў як выдаткаваў кожную заробленую капейку. Зберажэнні разумна мяняў на золата, за якое ў 1905 годзе выкупіў ад Карыцкага з Белагорцаў 24 дзесяціны зямлі з вялікай хатай і гаспадарчымі будынкамі. У Белагорцах з часоў Яна III Сабескага жылі дзве татарскія сям'і: на адным канцы вёскі Карыцкія на другім — Бараноўскія. Яшчэ стаіць кусок каменнай сцяны канюшні Бараноўскага, ёсць таксама старое гумно Карыцкага. Кожны з іх меў па 100 дзесяцін зямлі, а да рэвалюцыі служылі ў царскай арміі. Што цікава, штодзень карысталіся яны не польскай, як некаторыя думаюць, а выключна расійскай мовай. Вучаныя, начытаныя, добра ведалі, што неўзабаве іх раскулачаць, вывезуць на Сібір альбо павесяць. Уладзімір Гарбуз выкупіў апошнія дзесяціны Карыцкага.

— Генерал Карыцкі добра жыў з маёй бабай Вольгай Дзядэль з дому Зелянкевіч, — успамінае спадар Віталь. — Прасіў ён бабу аддаць старэйшую дачку Любу яму на выхаванне, каб адзіны сын Коля меў з кім гуляць.

Люба хадзіла ўжо не да сена, не да гною, а з кухні да пакою. Усё-такі тужыла за мамай і вярнулася дахаты. Баба Вольга расказвала сваім унучкам як генерала Карыцкага — павятовага дэпутата — вазілі брычкай з Белагорцаў у Саколку. Спярша займаўся гэтым Пятэльскі — крушынянскі прымак. Аднойчы пазычыў генералу сто рублёў. Генерал грошы аддаў, але той праз нейкі час сказаў, што грошай не атрымаў. Генерал — чалавек гонару — аддаў яму яшчэ раз. Потым прыйшоў да бабы Вольгі прасіць, каб дзед вазіў яго ў Саколку. Сказаў тады:

— Сто рублей пацяраў, але совесць узнаў.

Бацькі спадара Віталя, Івана, не было тады яшчэ на свеце. Іван нарадзіўся ў Маскве ў 1907 годзе. Уладзімір прывёз у Маскву Насцю, дзяўчыну з родных Паўлюшак. Пачаткова будучы дзевер не хацеў аддаваць сваёй багатай дачкі за бедняка без зямлі — маскоўскага бухгалтара. Гэта было яшчэ да закупу белагорскай генеральшчыны. У Маскве раней нарадзіліся таксама сястра Івана — Шура, браты Андрэй і Дзмітры. Шура і Андрэй закончылі маскоўскую гімназію, наймалодшы Іван паспеў справіцца толькі з 5 класамі пачатковай школы. Дзіма памёр, будучы ўжо халасцяком. Пайшоў на Іардан. Як кожны праваслаўны мужчына, стаяў у царкве без шапкі. Моцна прастудзіўся, не вытрымаў маскоўскага холаду. Найстарэйшы з братоў, Андрэй, закончыўшы маскоўскую адукацыю, вярнуўся ў Белагорцы на генеральшчыну. За жонку ўзяў суседку Надзю. У 1915 годзе мабілізавалі яго ў белую армію. Калі чырвоныя сталі перамагаць, уцёк у Балгарыю. Там пражыў цэлых 13 гадоў. Тым часам Надзя на хвалі бежанства адправілася ў Маскву да цесця Уладзіміра. Працавала ў шпіталі. Наладзіла новыя, сур'ёзныя суадносіны са смяротна ў яе закаханым паўнакроўным грузінам. Усё было б добра, калі б не карэспандэнцыя з Балгарыі. Грузін падхапіў лісты, а даведаўшыся, што любая Надзюша замужняя, выстраліў спярша ў яе, а потым у сябе. Моцна параненая Надзюша выжыла, але дахаты ўжо ніколі не вярнулася. У саракавых гадах толькі наведала белагорскую радню. Андрэя бачыць не хацела. Сустрэлася толькі з цесцем, якога заўсёды называла харошым чалавекам.

Уладзіміра выгнала з Масквы рэвалюцыя. Праўда, чырвоныя хацелі яго затрымаць, зрабіць высокім чыноўнікам, але пабаяўся, не верыў камуністам. Бачыў, як багатых на тачках вывозілі на вуліцу, не хацеў, каб і яго вывезлі. Голад быў настолькі вялікім, што адзін з сяброў Уладзіміра прадаў двухпавярховую хату за 4 пуды мукі.

— За 4 пуды паўгода пражывём, — маўляў дружок, — а калі хаты не прададзім, з голаду памром.

У Белагорцы Гарбузы вярнуліся ў 1920 годзе. Івану было тады 13 гадоў. На генеральшчыне, калі Андрэя забралі ў армію, гаспадарыў Чарнецкі — паляк з Малых Азяран. Убачыўшы на парозе законных гаспадароў, неадкладна адступіў. Нават бульбу і збожжа ім аддаў. Жонка Уладзіміра, Насця, пайшла на заробкі ў непадалёкія Кундзічы. Коні круцілі манеж, у малатарні не было тормаза, фартух укруціўся, Насця засталася з адной рукой. Уладзімір наняў служанку — Аўдоццю з Ласінян. Мог сабе гэта дазволіць за маскоўскае золата. Хапала і на кабылку купленую ў жыдоў. Цягнула плуг разам з трыма парабкамі. Разгарнуў гадоўлю. Добрых коней меў, у армію іх прадаваў. Хаця за Пілсудскага праваслаўным набыць зямлю было немагчыма, хіба што перайшоўшы на каталіцтва, не наракаў. Кепскага слова на ўладу не сказаў. Разам з Іванам чыталі Святое Пісьмо і гутарылі пра канец свету. А Іван заўсёды яму паўтараў:

— Жаль, што Маскву пакінулі.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

---

Постаці

# http://3sektar.tumblr.com

Звычайна, калі людзі хочуць узгадаць сваіх славутых землякоў, то яны часцей за ўсё кажуць пра знакамітыя постаці мінулых часоў. Тут, зразумела, ёсць свая логіка — калі пра чалавека помняць праз некалькі стагоддзяў ці дзесяцігоддзяў пасля яго смерці, то ён сапраўды зрабіў у сваім жыцці нешта вартае памяці ўдзячных патомкаў. Але адметных і таленавітых людзей сярод беларусаў не бракавала ніколі — папросту аб іх, можа, распавядалі меней, чым яны таго вартыя. Таму, магчыма, каб людзі ведалі пра сваіх выдатных сучаснікаў, у Гродне быў створаны адмысловы сайт, які і распавядае пра славутых землякоў, што жывуць побач.

На старонках „Нівы" пра гродзенскую грамадскую арганізацыю „Трэці сектар", а дакладней пра яе сайт, пісалася двойчы — у лістападзе 2005 і студзені 2011 г. Арганізацыя не толькі даказала сваю жыццяздольнасць, але і надалей генеруе і ўвасабляе ў рэчаіснасць разнастайныя праекты, у тым ліку і накіраваныя на стварэнне на гродзенскім абшары больш-менш трывалай грамадзянскай супольнасці. Таму не выпадкова, што менавіта дзеячы „Трэцяга сектара" зрэалізавалі праект „Постаці", аналагі якому цяжка знайсці, у прыватнасці, у Беларусі. Менавіта ў ім і вядзецца гутарка пра славутыя асобы сучаснай Гарадзеншчыны.

Каб бліжэй пазнаёміцца з праектам, варта зазірнуць на адмысловы сайт у інтэрнэце. Гэта можна зрабіць як непасрэдна з сайта „Трэцяга сектара", на якім месціцца банер „Постацей", так і адразу, набраўшы на сваім камп'ютары яго адрас **http://3sektar.tumblr.com**.

На першы погляд сайт даволі сціплы. І гэтаму ёсць тлумачэнне, што месціцца ў яго правым верхнім вугле, дзе даная інтэрнэт-бачына акрэслена як відэаблог. „Відэаблог, прысвечаны асобам, якія зрабілі вялікі ўнёсак у захаванне і папулярызацыю беларускай гісторыіі культуры", — распавядаецца там. Праўда, нягледзячы на такую сціпласць, нельга не адзначыць вялікай працы яго стваральнікаў, аб чым, дарэчы, сведчыць прамацыйны відэаролік „Постацей", змешчаны пад назвай сайта. У роліку, акрамя вызначэння ідэйнай накіраванасці праекта, адлюстроўваецца „працэс збору матэрыялаў пра людзей, якія зрабілі вялікі ўнёсак у захаванне і папулярызацыю гістарычнай і культурнай спадчыны Беларусі".

Згодна пададзенай на сайце інфармацыі, рэалізацыя праекта пачалася ў 2010 годзе. У выніку былі створаны 14 відэасюжэтаў пра славутых людзей Заходняй Беларусі. Уласна дыск „Постаці" быў прэзентаваны ў Гродне і Брэсце ў 2011 годзе.

„У 2014 годзе стартавала другая частка праекта — „Постаці 2". Гэтым разам аўтары абмежаваліся толькі Гарадзеншчынай. Падчас другой часткі было знята 13 інтэрв'ю з вядомымі дзеячамі культуры і актывістамі грамадскага руху Гродна і Гарадзеншчыны. У межах праекта выйшаў дыск „Постаці 2", які ўтрымлівае ў сабе ўсе 13 інтэрв'ю", — распавядаецца на старонцы „Пра праект", выйсце на якую месціцца з правага боку.

Што ж тычыцца тых асоб, на якіх засяроджана ўвага рэалізатараў праекта, то сярод іх многа вядомых не толькі на Гарадзеншчыне ці Берасцейшчыне, але і ў цэлай Беларусі. Гэта, у прыватнасці, спевакі Зміцер Вайцюшкевіч і Віктар Шалкевіч, гісторык Алесь Краўцэвіч, пісьменнік Сяргей Чыгрын, тэатральны рэжысёр Алег Жугжда.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

## Дата з календара

## Шляхам змагання і пакут

## 130 гадоў з дня нараджэння

# Палуты Бадуновай

Беларуская палітычная дзяячка Палута (Пелагея) Бадунова нарадзілася 7 верасня 1885 г. у мястэчку Навабеліца (цяпер адзін з раёнаў Гомеля). Яе бацька, Аляксандр Восіпавіч, арандаваў невялікі маёнтак, што і было асноўным прыбыткам сям'і, у якой гадавалася сямёра дзяцей. Палута скончыла двухкласную школу ў Буйнічах каля Магілёва, а потым здала іспыты на хатнюю настаўніцу расійскай мовы і геаграфіі. З 1905 г. пачала працаваць у школах Гомельскага павета. У 1914-1917 гг. вучылася на гісторыка-літаратурных курсах у Петраградзе, дзе і адбылося знаёмства з асяродкам беларускай інтэлігенцыі. У чэрвені 1917 г. абраная сябрам ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады. Была дэпутаткай Петраградскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў. З 5 жніўня 1917 г. — сябра рэвізійнае камісіі Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый у Мінску. Брала ўдзел у працы І Усебеларускага з'езда.

21 лютага 1918 г. увайшла ў Народны сакратарыят БНР, заняла пасаду народнага сакратара апекі. Удзельнічала ў адкрыцці беларускіх дзіцячых прытулкаў і школ. Старшыня арганізаванага ў Мінску дабрачыннага беларускага таварыства „Цётка". Сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. 12 лістапада 1919 г. абраная намесніцай старшыні Народнай Рады БНР.

17 лістапада 1919 г. разам з Язэпам Мамонькам і Вацлавам Ластоўскім была арыштавана польскімі ўладамі. У красавіку 1920 г. вяла перамовы з ЦК РКП(б) у Маскве. На з'ездзе БПСР 25 снежня 1920 г. у Мінску выступала за лавіраванне ў дачыненні да савецкай улады, спадзеючыся на трансфармацыю БССР у суверэнную нацыянальную дзяржаву.

У лютым 1921 г. у час акцыі па прымусовай „ліквідацыі БПСР" Палута сярод іншых была арыштавана бальшавікамі. Ей інкрымінавалі сувязь з падпольнымі арганізацыямі ў Віцебскай, Смаленскай, Гомельскай губернях, а таксама з арганізацыямі па іншы бок савецка-польскага фронту. У час арышту значна пагоршыўся стан яе здароўя. 16 жніўня 1921 г. была вызвалена.

У канцы 1922 г. нелегальна перайшла польскую мяжу і накіравалася ў Вільню. Праз месяц арыштаваная польскай жандармерыяй з мэтай вяртання ў СССР. Толькі ў жніўні яе вызвалілі з патрабаваннем неадкладна пакінуць Польшчу. Палута яшчэ паспела сустрэцца і выступіць перад дзеячамі беларускага нацыянальнага руху ў Вільні, Гданьску.

У 1923-1925 гг. жыла ў Празе. Тут паступіла ва Украінскі вышэйшы педагагічны інстытут імя М. Драгаманава. Але з-за хвароб вучоба была перапынена. Пачалі праяўляцца нервова-псіхічныя захворванні. У 1923 г. урад БССР абвясціў амністыю дзеячам беларускага руху, якія не змагаліся са зброяй у руках. Гэта ўсё суправаджалася палітыкай беларусізацыі, узбуйненнем тэрыторыі БССР, пераходам да НЭПу. Чарговы раз, даверыўшыся бальшавікам, у сярэдзіне 1925 г. пачалі масава вяртацца эмігранты. Палута вярнулася ў СССР. Наступныя пяць гадоў жыла ў сястры Марыі ў Мінску, спрабавала наладзіць супрацоўніцтва з Інбелкультам.

Першая хваля рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі, што пачалася ў 1930 г., Палуту не закранула, магчыма быў улічаны стан яе здароўя. У 1930 г. яна вярнулася ў Гомель. Працавала настаўніцай. Летам 1937 г. пачалася новая хваля рэпрэсій. 3 верасня 1937 г. Бадунова арыштаваная. Спярша быў прысуд — 10 гадоў лагераў. 25 траўня 1938 г. прыгаворана да расстрэлу. Расстраляная 29 лістапада 1938 г. у Мінску. Рэабілітаваная толькі ў 1989 г.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Каты спадара Уладзіслава



Каля 12 катоў з вёскі Старая Камёнка, што на Сакольшчыне, шукае новых гаспадароў. Жывёлкі засталіся без апекі пасля таго, як пры нявысветленых абставінах загінуў іхні гаспадар. Амаль тры месяцы, безвынікова, працягваюцца пошукі сямідзесяцісямігадовага мужчыны. Каты засталіся б пакінутыя самім сабе, калі б не дапамога суседкі Марыі.

У траўні гэтага года з сакольскай бальніцы выйшаў 77-гадовы спадар Уладзіслаў, жыхар Старой Камёнкі. Меў гіпсавую павязку на правай ключыцы, якую паламаў у час прыбірання хаты. Вяртаўся дамоў з малодшым сябрам, аднак у пэўнай хвіліне іх дарогі разышліся і кожны пайшоў сваім шляхам. Спадар Уладзіслаў не вярнуўся ў вёску таго ж дня. Не вярнуўся і наступнага. Паліцыя, памежная служба, жыхары вёскі пачалі пошукі, аднак безвынікова. Адным следам была інфармацыя, што спадар Уладзіслаў на калёніі адной з падсакольскіх вёсак прасіў вады. Да сёння невядома, дзе знаходзіцца Уладзіслаў Жултко. Людзі гавораць, што прапаў, быццам праваліўся пад зямлю. Ніхто нічога не ведае.

Па прапаўшым засталіся каты. Дзевяць звяркоў рознага ўзросту і колераў. Усімі цяпер займаецца спадарыня Марыя, суседка па вуліцы.

— На пачатку я насіла яду да хаты насупраць. Аднак відавочна яны зразумелі, што дом пусты і ўсе перайшлі да мяне, — распавядае Марыя. Тая апрача, як іх называе, „выхаванкаў”, мае яшчэ тры свае каты. — Не ведаю, што з імі ўсімі рабіць, але маю такі характар, што не магу пакінуць галоднай жывёлы.

Спадарыня Марыя падрабязна апісала мне пухнатых коцікаў, якія тэрмінова шукаюць новых гаспадароў. Два сівыя браты-блізнюкі, чорна-белая кошка, якая сарамліва хавалася ад фотаапарата, плямістая кошка, якая адважна, нават па-гаспадарску, стала качацца па дыване, гучна мурлыкаючы, пухнаты раскошны кот і некалькі маленькіх кацянят.

Спадарыня Марыя сядзіць на крэсле, трымаючы ката на руках.

— Гэта мая любімая кошка. Яна заўсёды папільнуе хату. Старэнькая ўжо і вельмі мудрая. Неаднойчы прыносіла для мяне на парог ці мыш, ці нейкую птушку, — пяшчотна пра катоў расказвае спадарыня Марыя.

Некаторы час я слухала жанчыну і раптам рассмяялася ад таго, як яна вельмі прыгожа, з гумарам апісвае катоў і так шчыра за іх перажывае. Вядома, я ад усяго сэрца ёй паспачувала, бо ўтрымліваць дванаццаць катоў — задача няпростая.

— Літр малака на дзень гэта мала! Купляю заўсёды ў мабільным магазіне, які ездзіць па вёсцы. Да таго вару бульбу і купляю корм „Kitekat”.

Справай катоў пацікавіліся мясцовыя сродкі масавай інфармацыі, прытулак для жывёл у Саколцы, які перадаў некалькі кілаграмаў кармоў, дапамагло таксама некалькі людзей. Спадарыню Марыю наведаў солтыс. Усё ж такі яшчэ патрэбныя сродкі для стэрылізацыі кошак, ці пакупкі ежы, і, перш за ўсё, патрэбныя новыя дамы для коцікаў, якія выглядаюць здаровымі і шчаслівымі.

Кожны, каму неабыякавы лёс 12 катоў са Старой Камёнкі, можа дапамагчы, робячы грошавы перавод на рахунак Фонду дапамогі жывёлам VITA CANIS.

Нумар рахунку: **13 2030 0045 1110 0000 0404 5450**

З прыпіскай: Каты спадара Уладзіслава.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Ушанавалі з годнасцю

Якраз мінула сотая гадавіна вялікай бітвы за Бельск-Падляшскі, якая разыгралася падчас прускага наступлення на ўсход у жніўні 1915 года. Бітва сапраўды была вялікая, калі толькі саміх прусакоў змагалася тады больш за 300 тысяч. Нямала іх пакоіцца на вясковых ваенных могілках на Бельшчыне і Гайнаўшчыне. Дастаткова сказаць, што на паасобных могільніках ляжыць па тысячы і больш салдат абедзвюх армій (Арэхвічы, Ягуштова, Райск, Праневічы і г.д.). У спякотную нядзелю, 23 жніўня, грамадства Бельска-Падляшскага і наваколля з годнасцю ўшанавала гадавіну гэтай самай вялікай ваеннай падзеі на Падляшшы.

Арганізатарамі святкаванняў былі гарадскія і гмінныя ўлады Бельска, Аб’яднанне „Музей малой айчыны ў Студзіводах” і праваслаўны прыход у Ягуштове. Спярша ў ягуштоўскай царкве была адслужана заўпакойная літургія і паніхіда на мясцовых ваенных могілках. Да супольнай малітвы былі запрошаны духоўныя іншых веравызнанняў, але з’явіўся толькі рымска-каталіцкі ксёндз.

Пасля малітваў удзельнікі святкаванняў пераехалі ў Студзіводы, дзе адбыліся галоўныя ўрачыстасці. Была пераклічка, а таксама наглядны ўрок гісторыі для шматлікіх гледачоў. Рэканструкцыйнае відовішча, беручы пад увагу вернасць дэталяў выканання, прыгадала прысутным лёс іх продкаў у час трагічнага бежанства, а таксама прадэманстравала фрагменты баявых дзеянняў падчас бітвы прускага і рускага войскаў. У цэлым быў гэта знакаміты ўрок гісторыі для тых, якія да нядаўна не мелі ніякага паняцця аб падзеях стогадовай даўнасці. Замацаванню гэтай памяці сярод асоб, якія чытаюць кніжкі, паспрыяюць прадаваныя ў час мерапрыемства выданні: зусім свежая публікацыя Марціна Томкеля „Вайна вялікіх дзяржаў. Падляшша 1914-1915”, а таксама вядомая, і можа таму ўсё хадавая, мемуарная кніжка Барбары Гаральчук. Бясплатна можна было дастаць вельмі карысную карту шляху Усходняга фронту Першай сусветнай вайны, а таксама незвычайную, беручы пад увагу спосаб яе ўзнікнення, „Бежанскую газету”, створаную незаменным Дарафеем Фіёнікам і моладдзю, якая з ім супрацоўнічае.

У цэлым была гэта вельмі ўдалая і вельмі карысная ініцыятыва, якая ў знакаміты спосаб сыграла сваю ролю і згуртавала натоўпы гледачоў.

І гэта нягледзячы на адсутнасць латкоў з півам і каўбасой!

**Марк ЦЫБРТ**

# 13.09 — 19.09

**(22.03. — 20.04.)** Актыўна праводзь час. Будзь разважлівым у адносінах да няшчырых. Цяпер можаш аддыхнуцца і перастаць жыць з заціснутым поясам. У службовых справах дзейнічай хутка, не чакаючы, што праблема сама развяжацца. Вадалей прынясе табе добрыя весткі, а Скарпіёна пераможаш.

**(21.04. — 21.05.)** У сардэчных справах будуць незвычайныя атракцыёны. Паслухай Сатурна, дамаўляйся 17.09. на сустрэчу, варта! Еж лёгка і варушыся, старайся не стрэсавацца. Ажыццяўляй планы, думай аб памнажэнні капіталу (пасля можа быць горш). Не ашчаджай на адзенні і падарожжах — многаму навучышся.

**(22.05. — 22.06.)** Апературнасць, сіла волі і працавітасць. Справішся з абавязкамі, здабудзеш прызнанне асабліва ў вачах шэфа, а ў фінансах — адны поспехі. Карыстайся натуральнымі тэрапіямі. Леў запрапануе табе штосьці, ад чаго не адмаўляйся. З’ездзі за мяжу.

**(23.06. — 23.07.)** 13.09. настойлівасць і пільнасць прынясуць табе мураваны поспех. Але лішняя самаўпэўненасць можа быць кепска ўспрынята і хтосьці палічыць цябе непрыемнай асобай. Адчуваць сябе будзеш бадзёра і молада. Калі вядзеш свой бізнес, зробіш інтарэс на чымсьці, на чым не спадзяешся.

**(24.07. — 23.08.)** Не сядай на вострую дыету, а проста еж рэгулярна. На працы важныя падвядзенні. Выйдзеш на плюс. Калі будуць да цябе чапляцца, дык гэта з-за твайго поспеху, які камусьці заколе ў вочы. Можаш да некаторых спраў падысці лішне амбітна, і з пэўнымі справамі цяжка будзе справіцца і разлічыцца.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш мець сілу і адвагу для здзяйснення сваіх мараў. Пачнеш выкарыстоўваць моманты і лавіць нагоды. Варта цяпер пачаць рэалізацыю новых заданняў. Бык акажацца быць тваім добрым дарадчыкам. Знайдзі спосаб, каб разгрузіць эмоцыі і псіхічнае напружанне. Зоркі асцерагаюць цябе ў верасні перад кантузіямі, аварыямі, пашкоджаннем цела.

**(24.09. — 23.10.)** З 18.09. здасца табе, што людзі хочуць табе рабіць на злосць, а звычайныя рэчы будуць цябе раздражняць; старайся быць памяркоўным. Але вельмі добра пойдуць твае інтарэсы, атрымаеш важныя інфармацыі. Намячай новыя мэты, шляхі і іх рэалізацыю, але хутчэй не ў кампаніі — рабі ўсё адзін, калі можаш. Хаця цяжка будзе ўтрымаць табе таямніцы, якія могуць легчы табе на сэрцы.

**(24.10. — 22.11.)** Схочацца табе пашукаць новых знаёмстваў. Захопіць цябе хтосьці падобны на цябе, кемлівы, з новымі задумамі. Прыліў энергіі і добрых думак, загружай акумулятары. Не дурэй з ежай і пільнуй дазіравання лякарстваў. У прафесійных справах будзеш мець мноства моцнай волі. Прымі прапанову знаёмых наконт працы.

**(23.11. — 22.12.)** Адкладзеныя старыя справы стануць больш канкрэтнымі. Намеціш сабе амбітныя мэты, а дысцыпліна стане тваёй другой натурай. Рабі ўсё па чарзе. У пары зноў станеце «надаваць на адной хвалі». 15-19.09. станеш перад дылемай — схочацца прысвяціць час сям’і, а і лепш выкарыстаць прафесійныя шанцы.

**(23.12. — 20.01.)** Адчуеш сілу і матывацыю для рэалізацыі нават шалёных задум. Маеш шанцы зрэалізаваць даўно адкладваныя планы. Час лаяльнасці і вернасці ў пары. Добры настрой і здароўе дасць табе гарачая гароднінная дыета — нават калі да кожнай стравы дадасі штосьці з сырой гародніны.

**(21.01. — 19.02.)** Знакаміты час на заснаванне сям’і, вызначанне дэталяў наконт супольнага жылля, паразуменне з далейшымі сваякамі. Не азірайся ў мінулае! Не абмяркоўвай былога. Знойдзеш прыязных людзей, якія будуць інспіраваць цябе да новых дзеянняў. На пошукі працы ідэальны момант — 15-19.09.

**(20.02. — 21.03.)** Не замятай праблем пад дыван, кажы адкрыта, што цябе турбуе. Хаця будзе цябе штосьці гнясці. Таксама на пячонцы. Не рабі ніякіх эксперыментаў з дыетай; адкладзі худзенне на наступны месяц. 15-19.09. будзеш мець ахвоту падурэць, папарушаць прынцыпы і законы, пашакіраваць іншых — глядзі, бо нарвешся! Можаш з Быком пачаць рабіць штосьці сумесна, а і Дзева цябе не падвядзе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. лічыльная дошка ў старажытных грэкаў = 15 _ 8 _ 64 _ 6 _;
2. сталіца Бангладэша = 27 _ 28 _ 2 _ 26 _;
3. верхняе прыкрыццё будынка = 50 _ 55 _ 54 _;
4. партнёр бабы = 19 _ 20 _ 21 _ 44 _;
5. выхадны ствол агнястрэльнай зброі = 10 _ 9 _ 14 _ 11 _;
6. снарад дыскабола = 16 _ 17 _ 61 _ 18 _;
7. асоба, якая выконвае смяротны прыгавор = 40 _ 33 _ 39 _;
8. жарснае песнапенне ў выкананні двух царкоўных хароў = 24 _ 23 _ 22 _ 32 _ 12 _ 13 _ 65 _ 67 _ 34 _;
9. буйная марская жывёла = 52 _ 53 _ 62 _;
10. ільдзіна на рацэ = 35 _ 63 _ 51 _ 25 _ 60 _;
11. каўтун валакна для праллі = 57 _ 58 _ 36 _ 37 _ 38 _ 31 _ 1 _;
12. падбор фарбаў у карціне = 42 _ 43 _ 66 _ 41 _ 56 _ 45 _ 46 _;
13. садовае дрэва, якое родзіць падоўжныя костачкі абведзеныя сакавітым мякішом = 47 _ 48 _ 49 _ 29 _ 30 _;
14. адасобленая сялянская сядзіба = 3 _ 7 _ 5 _ 4 _ 59 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |
| 33 | 34 | 35 | | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |
| | | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 |
| 50 | 51 | 52 | 53 | | 54 | 55 | 56 | 57 | 58 |
| | 59 | 60 | 61 | 62 | 63 | 64 | 65 | 66 | 67 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 34 нумара**

Карбон, паліца, Дарданелы, гаць, яда, жэтон, папараць, друк, выгада, капа, ява, дойна, губа, Кобрын, бык, шпак.

Рашэнне: **Ад добрага цяжэй адвыкаць, як да добрага прывыкаць.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

Уладзімір падаў у рукі кубак халоднай вады, толькі што дабытай з калодзежа. Ён чакаў, пакуль праглыну сколькі глыткоў.

— І як? Можа быць? — спытаў.

— Яшчэ такой смачнай не піла!

— Да мяне ажно з Шацка па ваду прыязджаюць, — пахваліўся Уладзімір, — кажуць, у ёй добра гуркі кіснуць.

Я сама, калі каштавала ваду, прыгадала смак падляшскага „халадку", дзе асноўным прадуктам была свежая вада проста з калодзежа, з мінераламі і жывымі культурамі мікраарганізмаў. Халоднай вадой, проста з калодзежа залівалі раздробленую зялёную цыбульку з кропам і гуркам, дапраўлялі варанымі яйкамі, смятанай, соллю і чорным перцам. Халадзец з патоўчанай бульбай, акрашанай шкваркамі, спажывалі ў час жары, нярэдка цягам усяго лета. Нічога іншага не хацелася есці...

У Свіцязі саромеліся ўжо простага халадцу. Для прыезджых прапанавалі запяканкі і піцу, чабуракі з мясной начынкай, варэнікі з сырам, пампушкі з бульбай, грыляваную курацiну і бульбу фры. Больш патрабавальныя гурманы маглі набыць дзясяткі відаў вэнджанай, печанай і смажанай рыбы, злоўленай у Расіі, Кітаі і Беларусі. Таксама яду можна было набыць, лежачы пад парасонам на пляжы. Берагам возера працісkаліся вясковыя гаспадыні з роварам „Украіна", абчэпленым паласатымі торбамі з хатнімі абедамі: адбіўнымі катлеткамі з бульбай, салатамі з гароднiны, пончыкамі і здобнымі булкамі з макам і чарніцамі.

Таму жэст Уладзіміра, які пачаставаў жывой вадой са свайго калодзежа, падаўся амаль біблейскім. Каштоўнасць студзёнай вады, ва ўмовах працяглай засухі, якая запанавала ў курортнай Свіцязі, здавалася арыгінальнай і бясцэннай.

* * *

У дом Уладзіміра і Веры патрапіла я нечакана, дзякуючы людскай спагадзе і міжсуседскай салідарнасці. Вечарам у суботу ўсе начлежныя месцы ў Свіцязі былі занятыя, толькі ў адным месцы была магчымасць зняць кватэру ў цане месячнай зарплаты настаўніка, то-бок, пяцідзесяці долараў. Таму без аглядкі я падалася да знаёмых людзей, дзе ўжо знімала кватэру па добрай цане. У іх хаце таксама ўсе месцы былі заняты.

— Пайшлі да суседзяў, — прапанавала гаспадыня, — можа яны прымуць?

На шчасце ў хаце Уладзіміра быў яшчэ адзін вольны пакой. Ужо на пачатку ўразіла мяне іх народнае стаўленне да бізнесу — тут не ішло пра заробак, людзі хутчэй аказвалі дапамогу ў дарозе. За начлег у іх хаце я заплаціла ўсяго сімвалічныя 2,5 долара.

Ужо з парога ўразіла практычнае абсталяванне хаты. Тут не было ніякіх фінціклюшак і бліскучых аздобаў. Адзінай «цацкай» пенсіянеркі Веры быў ноўтбук з выявай Юліі Цімашэнкі на экране. Чыстую прастору кухні прыаздаблялі цытаты з Бібліі: «Не судзіце і не будзеце асуджаныя», «Любіце адзін аднаго»...

Хоць цэлы дом быў мураванкай, яго сярэдзіна явілася драўлянай і высмакаванай у эстэтычным сэнсе. У вочы кідалася высокая століь, падоўжаныя дзверы і вокны традыцыйнай сталярскай работы. Усё гэта пашырала прастору і прыдавала ёй дастойнасці. У маім пакоі сцены былі размаляваны на бэзавы колер, іх берагі аздаблялі шаблонныя ўзоры з раслiннасцю, характэрныя таксама для нашых вясковых дамоў у 1980-я гады. Кампазіцыю інтэр'ера папаўнялі паласатыя палавікі, дапасаваныя занавескі і простыя канапы-версалькі. Хоць цэлы дом быў заселены летнікамі, — у суседніх пакоях жылі дзве сям'і з малымі дзеткамі, — паўсюдна панавалі сцішанасць і парадак. Штосьці падобнае было і ў характары Веры і Уладзіміра.



# У палескай глыбінцы (13)



* * *

На самой справе дом Уладзіміра і Веры па вуліцы Савецкай быў схаваны ад навакольнага архітэктурнага вэрхалу. Галоўная вуліца сяла напамінала пастаўлены ў спеху абоз качэўнікаў. Побач шкляных палацыкаў з бляшанымі дахамі, стаялі бляшаныя буданы і выкрыўленыя пансіянаты з фанеры і цэглы, прыгнечаныя зверху шапкай таксічнага шыферу. Усюды хадзілі гусі, індыкі, цацаркі. Ля забудоў пераліваліся натоўпы пазбаўленых выгляду летнікаў. З гэтага цэлага каляровага патоку запамятаўся адзін дзядзька падобны на Дзмітрыя Мядзведзева. Разам з натоўпам ён сонна крочыў вуліцай Надбярэжнай у бок кінатэатра «Маяк». У Свіцязі прывыклі да з'яў з памежжа рэальнасці і легенды.

— Кажуць, у нашым сяле пачаў будаваць палац сын Януковіча, — пачаў Уладзімір, — аднак, пасля змены ўлады, прадаў свой някончаны хорам.

Сам Уладзімір ніколі на вочы не бачыў алігарха, ні яго палаца, нібыта схаванага за высокай агароджай. Ды нават не ведае, ці справа датычыць старэйшага ці малодшага сына. Ці гэта не будзе той небарака, што ў Байкале ўтапіўся? Бо зараз, усе слыхі па ім заглухлі.

У народзе вераць, што менавіта сын Януковіча асфальтаваў дарогу са Свіцязі ў сяло Пульмо. Гладкае палатно асфальту сцелецца цягам 12 кіламетраў ад Свіцязі да канца сяла Пульмо, далей ідзе дзіравая гравійка з каляінамі. Ля сяла агромністае, яшчэ паўдзікае возера. Паводле чутак, тут таксама меў пабудаваць палац сын экспрэзідэнта.

Пытаю Уладзіміра, чаму ён, чалавек старой даты, сціплы пратэстант-баптыст, на старыя гады заняўся агратурызмам.

— Дзеці намовілі! — чую ў адказ.

Апрача чатырох пакояў у хаце Уладзімір знімае яшчэ два домікі ў глыбі панадворка.

— А зараз хоча паставіць яшчэ два домікі, — дадае, — яна таксама хоча падзарабляць на турыстах.

* * *

З Верай і Уладзімірам прасядзелі мы амаль да світання на іх ганку, снуючы аповеды і ўспаміны пра колішнюю Свіцязь. Час ад часу ўзрывалася музыка на лецішчах, брахалі сабакі.

— Адкуль у вас такое прозвішча Маліноў? — спытала я ў гаспадара.

— Я — байструк, — пажартаваў гаспадар.

Ягоны бацька паходзіў ажно з-за Урала. Якраз у Расію паехала па працу маці, там і пазнаёмілася з бацькам Уладзіміра. Ён загінуў на фронце і маці вярнулася ў Свіцязь. Аднагодкі аднак дакучалі яму, прazывалі байструком. Уладзімір не лез за словам у кішэню:

— Калі мяне насмешліва пыталі дзе бацька, я гаварыў такое: *Мой бацька на возеры ў пятроўку па ільду катаўся, лёд праламаўся і бацька ўтапіўся*. Усе смяяліся, бо ж у *пятроўку* разгар лета, ніякага ільду не бывае... Пазіцыю сярод аднасяльчан дапамагла збудаваць грамада баптыстаў, якая несла маральную падтрымку. Што лічыць сваім найбольшым поспехам?

— Гэта сям'я. Сын стаў пастарам баптысцкай суполкі ў Шацку, — адзначае з гонарам Уладзімір.

— Усё жыццё мы любілі працаваць, — дадае Вера.

Яна, хоць сама працавала ў дзіцячым садку, пасля працы займалася сям'ёй і гаспадаркай. Калісь у летнія месяцы людзі шчыравалі на балоце.

— Усё сушылі траву «рызух», каб было чым кароў зімой пракарміць. А зараз ужо ўсё менш і менш кароў пры яслях.

— Людзі спанелі, — кажа гаспадыня.

У актуальны момант Уладзімір займаўся яшчэ пчалаводствам. Ён таксама прыдумаў арыгінальны напітак на базе бярозавага соку з дадаткам пчаліных сотаў з-пад мёду, якім пачаставаў мяне і трох сяброў, якія былі са мной.

— Яшчэ хацеў бы прыехаць у Польшчу і крыху падзарабіць, — кажа на развітанне гаспадар.

Навошта яму, абжытаму пенсіянеру, такі клопат?

— Як чалавек жыве, то хоча дапамагчы дзецям, — чую ў адказ, — а мне чатыры раты накарміць трэба...

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**



ISSN 0546-1960